
Цеслар Ян Анопюк →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Загубленая вера →12

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 19 (3078) Год LX

Беласток, 10 мая 2015 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# СТРАТЭГІЧНЫ АСВЕТНЫ КАРАГОД

Адчуваем сябе тут, у Беластоку, як дома. Мы — адны з вас, — так галантна, прыемнымі вуху і сэрцу словамі распачаў сустрэчу ў сядзібе Падляшскага ваяводы дырэктар Дэпартамента рэлігійных веравызнанняў і нацыянальных і этнічных меншасцей Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі Юзэф Ружанскі.

Сустрэча, зладжаная ў аўторак 28 красавіка з удзелам урадавай і самаўрадавай адміністрацыі, а таксама арганізацый беларускай нацыянальнай меншасці мела на мэце падсумаванне стратэгіі развіцця асветы нашай меншасці ў Польшчы прынятай год таму. І тут, калі глянуць на колькасць запрошаных гасцей у спіску, а рэальна прысутных, з'явілася непрыемнае для ўсіх расчараванне. У сустрэчы з усіх бакоў удзел прыняло раптам... 17 чалавек. Каб не было сумненняў, хто прыняў удзел у так важнай працоўнай сустрэчы, дазволю іх усіх пералічыць з надзеяй на лепшае ў будучыні. Арганізацыі беларускай нацыянальнай меншасці, у тым ліку Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА, Беларускае гістарычнае таварыства, Беларускі саюз у Польшчы, прадстаўлялі Кацярына Паўлоўская, Барбара Пякарская, Аліна Ваўранюк, Алег Латышонак, Славамір Іванюк, Яўген Вапа. Асветныя ўстановы з навучаннем беларускай мовы прэзентавалі дырэктар Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім Андрэй Сцепанюк і намесніца дырэктара Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы (бельскія «тройка» і гімназія) Ірына Яблушэўская. Міністэрства адукацыі прадстаўляла Гражына Плашайская, Падляшскую куратарыю асветы — віцэ-куратар Вяслава Цвіклінская, Цэнтр адукацыі настаўнікаў у Беластоку — дырэктар Крыстына Грабоўская. У арганізацыі... толькі... з'явілася мясцовае самакіраванне. Міністэрства адміністрацыі і лічбавізацыі прадстаўлялі яшчэ начальнік Дабеслаў Жэмянеўскі, які быў вядучым сустрэчы і Яраслаў Малэцкі. Ваяводу прадстаўляў яго ўпаўнаважаны па справах нацыянальных і этнічных меншасцей Мікалай Мантур.






Злева: Барбара Пякарская, Кацярына Паўлоўская, Аліна Ваўранюк, Яраслаў Малэцкі, Гражына Плашайская




Нягледзячы, аднак, на непрысутных, дыскусія пры разглядзе кожнага пункта мінулагодняй дамовы была патрэбнай і зацягнулася звыш трох гадзін. Першая праблема была звязана з толькі што закончаным наборам у дзіцячы садок № 14 у Беластоку — адзіны, дзе вывучаецца беларуская мова. Бацькам дзетак было прапанавана толькі 11 месц, хаця запатрабаванасць значна большая. Два дні пазней у эфіры Беларускага Радыё Рацыя ў гутарцы з Міколам Ваўранюком дырэктар прадшколля Люцыя Німяровіч сказала наступнае: «Ахвотных у гэтым годзе было 26, можна падлічыць, што 15 дзяцей не атрымалі месца. Былі яшчэ такія бацькі, якія хацелі ўладкаваць сваіх дзяцей да групы 4-гадкаў. Але мы ім сказалі, што не будзем праводзіць набору, у нас проста не было месцаў. На вялікі жаль. Нядаўна я была ў гарадскім урадзе у нашым дэпартаменце адукацыі. Мы там гаворым пра тое, каб на адзін год далі нам памяшканне, каб мы маглі стварыць яшчэ адну групу. Шкада гэтых дзетак і бацькоў, таму што ёсць бацькі, якія хочуць быць толькі тут і больш нідзе... У панядзелак я іду да нашага дырэктара. Яны адкрытыя, каб нам даць яшчэ адно памяшканне. Але цяпер шукаюць яго. Таму што ў «чацвёрцы» няма, у школе Кірылы і Мяфодзія няма. Я патэлефанавала да ўсіх бацькоў, дзяцей якіх мы не прынялі. Яны прыйдуць да нас у панядзелак (4 мая) у 16 гадзін на сустрэчу. Яны ўсе хочуць да нас, і нават тыя бацькі, дзеці якіх пайшлі ў іншыя прадшколлі. Думаю, што мы нейкім чынам вырашым гэтую сітуацыю».

Пра вынікі сустрэчы паінфармуем у наступным нумары тыднёвіка. Аднак у ходзе дыскусіі ўва ўсіх прысутных, але таксама і ў бацькоў дзяцей ёсць меркаванне і перакананне да ідэі, што садок павінен стаць цалкам беларускім. Усе бацькі і іх дзеці дзеля адукацыйнага і інтэграцыйнага працэсу павінны быць у адным будынку, а не бадзяцца па іншых невядомых установах. Праблем можна было б пэўна пазбегнуць, але, наколькі асабіста памятаю, на ніводнай сустрэчы, прысвечанай беларускай асветнай стратэгіі, не ўдзельнічалі прадстаўнікі прэзідэнта горада Беластока. У мінулым каляндарным годзе падобнае здарылася з лішкам ахвотных у беластоцкую пачатковую школу № 4. Бо не прадбачылі, бо не ведалі.

Астатнія разгляданыя пункты паказалі мне асабіста праблему добрай, спрыяльнай атмасферы і інфармацыйнага кругазвароту паміж самаўрадамі, Куратарыяй асветы і Аб'яднаннем у карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА як каардынатарам ад нашага асяроддзя асветнай стратэгіі. Самая галоўная праблема, па-мойму, гэта неасрэчны фактар, што пра прынятую год таму стратэгію не ведаюць па сёння нават усе дырэктары школ у Падляшскім ваяводстве і, зразумела, самаўрадаўцы, якім падлягаюць асвета і адукацыя. Адны тлумачаць, што з юрыдычнага і арганізацыйнага пункту ад іх нічога не залежыць, другім хіба на мала чым залежыць — апрача толькі атрымання ў свой бюджэт дадатковых грошай за ісванне навучання беларускай мовы. А калі гаварыць пра занятки для вучнёўскай польскай большасці ў падляшскіх школах пра беларусаў, то ад гадоў топчамся ў месцы з заклікам аб іх неабходнасці. Таксама невядома, у якім напрамку і на якім этапе Беластоцкі ўніверсітэт вядзе размовы ў справе магчымага стварэння там беларускай этна-філалогіі, таму што таксама на сустрэчы непрысутнымі былі прадстаўнікі беластоцкай беларускай філалогіі, якія маюць у гэтай справе найбольш інфармацыі.

Затое ўсе прысутныя маглі даведацца, што на працягу года ў асветна-выдавецкай сферы было зроблена АБ-БАй. І кожны ўдзельнік сустрэчы займеў самае свежае выданне арганізацыі — метадычны часопіс пад загалоўкам «Беларускі настаўнік». Усхваляваная настаўніца беларускай мовы Аліна Ваўранюк гаварыла: «Лічым, што ён стане сапраўднай дапамогай настаўнікам, але толькі ў тым выпадку, калі і настаўнікі будуць з намі дзяліцца сваімі метадычнымі напрацоўкамі. Часопіс плануецца паўгадавы. Першы яго нумар змяшчае поўнасцю тэкст «Стратэгіі развіцця асветы беларускай меншасці ў Польшчы», а таксама сцэнарыі заняткаў і рэкамендацыі па падрыхтоўцы да здачы матуры».

Таксама на працягу года ішлі працы над дапаможнымі адукацыйнымі матэрыяламі для I-III класаў. Для гэтага школьнага ўзроўню пабачылі свет таксама і песні ў выкананні саміх дзяцей. Пра ўсе выданні і дапаможныя матэрыялы інфармацыю можна знайсці і спампаваць для карыстання з сайта арганізацыі www.ab-ba.com.pl. Тут і найважнейшае: для гэтых класаў маем камплект падручнікаў: для першага — сцэнарыі заняткаў для настаўнікаў, для другога — «Лемантар», а для трэцяга — «Кругагод». Перад настаўнікамі яшчэ выклік напісання падручнікаў для IV-VI класаў і гімназіі. За распаўсюд падручнікаў і за доступ усім школам адказвае Куратарыя асветы ў Беластоку. Праз год мае выйсці дрķам на польскай мове калектыўная праца нашых гісторыкаў «Гісторыя беларусаў Падляшша». Удзельнікі сустрэчы спадзяюцца, што ў наступных гадах прачытаем яе і па-беларуску. Згодна з традыцыяй вынікі сустрэчы з узніклымі праблемамі і прапановамі будуць запісаны ў выглядзе пратакола. Падобная сустрэча плануецца праз год.

Аднак перш за ўсё ад усяго нашага асяроддзя, самаўрадаў, бацькоў, настаўнікаў і супольнага заахвочвання да роднай адукацыі будзе залежаць ці беларускі асветны карагод стане стратэгіяй нацыянальнага выжывання.

Яўген ВАПА





# О, спорт, ты міф!

З дзяцінства я вельмі люблю спорт. Прычым некалі любіў яго ва ўсіх праявах. Але дзяцінства праходзіць, юнацтва мінае, маладосць пралятае... І неўзабаве прыходзіць сталасць, ад якой да старэння ўжо не так далёка, можна сказаць вельмі кароткая дыстанцыя. У вялікім спорце ўсё часцей б'юцца і абнаўляюцца новыя рэкорды, а твае гады ляцяць усё хутчэй, нібы той чарнаскуры ямайскі спрынтар Болт. Разумееш і заўважаеш, што ты ўжо не ўстане зрабіць на папярэчыне пад'ём пераваротам, закінуць 9 з 10 разоў баскетбольны мячык з лініі штрафной у кошык, выбегчы стометроўку з дванаццаці секунд. Ды што там з дванаццаці — дабегчы б увогуле... Як трапна сказаў адзін сучасны паэт, „годы вышли на медленный ужин". Таму нашаму пакаленню, як сказаў іншы жартаўнік, з усіх відаў спорту толькі і застаюцца, што даміно ды часопісы з дзеўкамі з сумнеўнай рэпутацыяй. Але мы з сябрамі яшчэ стараемся неяк трымаць марку — час ад часу сядаем на ровар, выходзім да тэніснага ці хоць бы більярднага стала.

Згодна з дыялектыкай, нешта з гадамі губляеш, а нешта набываеш. Хоць што-сьці пачынаеш разумець. І тое, што адбываецца вакол спорту, які зусім не „мір", а міф. Ужо няма ранейшай шчырасці, калі мог захапляцца хет-трыкам улюбёнага бамбардзіра. Бо калі высвятляецца, колькі дамоўных матчаў было ў тыя гады, то адбываецца дэвальвацыя тых ранейшых захапленняў. Пра палітыку вакол спорту і казаць не хочацца. Міжнародныя спартовыя структуры настолькі карумпаваныя, што вушы, хвасты і капыты гэтай прадажнай сістэмы тырчаць адусюль. Нават ніякіх доказаў не трэба. І нічога не мяняецца ў гэтым свеце пад месяцам і алімпійскімі кольцамі. Раней Гітлеру алімпіяду прадавалі, цяпер Пуціну. Дыктатарам меншым — менш маштабныя відовішчы, усё па ранжыру. Дастаткова сказаць, што першыя Еўрапейскія спартовыя гульні ў гісторыі пройдуць сёлета фактычна ў азіяцкай, а галоўнае дыктатарскай краіне — Азербайджане! Еўрапейскія функцыянеры даўно прадалі душу за танныя нафту ды газ.

Ды што там вялікі спорт, звернемся да так званага масавага. У Беларусі кіраўніцтва і чыноўнікі любяць назольна паўтараць: „Мы сахранілі всё лучшэе, што была в Савецкам Саюзе". Але нават гэта хлусня і няпраўда. Што датычыць таго ж аматарскага спорту — у СССР ён сапраўды быў масавым і разгалінаваным. У кожнай вясковай школе рэгулярна праводзіліся спаборніцтвы па дзясятках відаў, услед ішлі раённыя спартакіяды, абласныя, потым — рэспубліканскія. І гэта пры той сціпласці, і нават беднасці спартовага інвентару. У кожнай школе стаяў як мінімум адзін тэнісны стол, а на школьных стадыёнах былі разнастайныя сектары. Фізкультура і аматарскі спорт сапраўды ўтваралі цэлую піраміду, на якой грунтаваўся і прафесійны спорт. Што ж зараз? Нягледзячы на пустую балбатню шматлікіх ідэолагаў-дармаедаў і паказуху, масавы спорт у занядбанні. Пра вёску і гаварыць няма чаго, там хутка людзей зусім не застанецца. Але выйдзіце ў гарадскія двары. У адным баскетбольныя шчыты тырчаць без кольцаў, у іншым — яны разламаныя ўшчэнт, у трэцім нейкія ёлупні ўкапалі іх на вышыню трох метраў, так што нават Сабоніс не закінуў бы: затое цэлыя — ніхто не зломіць. На металёвых слупах для валейбольнай сеткі бачыць гэтую самую сетку ніколі не даводзілася. А ці ёсць у якой школе пастаўлены тэнісны стол? Калі ж бачу на школьным стадыёне дзяцей, якія ганяюць мячык — жахаюся: на якіх пляцоўках яны гуляюць у футбол! Няўжо цяжка адміністрацыі раз у тры гады ўпарадкаваць гэтыя сапраўдныя пляцоўкі для калецтва. У нейкі суботнік выкапаць камяні, якія тырчаць, выклікаць грэйдар раз у пяць гадоў, каб выраўняць зямлю... Гэта ж так элементарна.

На школьныя ж стадыёны ў выходныя дзень увогуле не ўвойдзеш. За апошнія гады іх абгарадзілі высокімі металічнымі платамі, нібыта для бяспекі дзяцей. Але, думаю, зрабілі гэта хутчэй для трэніровак і фізічнага тонусу бабулек, якія цяпер мусяць кругамі абыходзіць стадыёны, праклінаючы абгародчыкаў, што пераўтварылі школьныя двары ў нейкія закрытыя, ледзь не „сакрэтныя" зоны.

Так што не дзіва, што новае пакаленне выбірае толькі віртуальнае — мабільныя тэлефоны ды планшэты.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Слоўцы і палітыка

Як відаць з заявы Аляксандра Лукашэнкі да народа, у Беларусі нават бульбу высаджваюць на карысць чалавека. І праўда ў тым, што ўсялякага дабра, у тым ліку бульбы, у краіне надалей прыбывае, як ні парадаксальна, аднак, усё больш і больш менш самога чалавека. Хай ужо менш пра статыстыку, згодна з якой колькасць грамадзян за 20 гадоў кіравання Аляксандра Лукашэнкі знізілася амаль на адзін мільён. На самой справе, гэтая лічба павінна быць павялічана ў два ці нават тры разы. Прычым гэта не з-за стыхійных бедстваў, хвароб ці нават масавых уцёкаў грамадзян ад бульбы, якая ўжо ім добра пераелася. Такой хуткай дэпапуляцыі грамадзян у Беларусі паспрыяла толькі адна заява Лукашэнкі: «Калі ў цябе няма дзяцей, ты не чалавек!»

У святле міжнароднага права, не кожны чалавек можа быць грамадзянінам, але кожны грамадзянін павінен быць чалавекам. Гэтага прынцыпу трывала прытрымліваюцца ўсе цывілізаваныя краіны. Таксама і Беларусь. Таму аўтаматычна, адмаўляючы чыюсьці чалавечнасць, адначасова абдзіраецца такую ўбогую істоту з грамадзянства, атрымanага ім па нараджэнні або па іншым юрыдычным яго набыцці. Так як у Беларусі да гэтага часу не вызначана, колькі чалавека павінна быць у грамадзяніне, і колькі грамадзяніна ў чалавеку, сотні тысяч, калі не мільёны людзей, бяздзетных грамадзян мае чым турбавацца. Пазбаўленыя чалавецтва і грамадзянства, могуць быць уладай імгненна пазбаўлены жыццёвых правоў да здабыткаў усяго жыцця — ад жылля, аўтамабіляў, грошай пакладзеных на захоўванне ў банк аж да пашпартоў, якія даюць надзею на ўцёкі ў лепшы свет. Ну, хіба што цвёрда возьмуцца яны за працягванне роду. Але што з тымі, хто, нягледзячы на вялікае жаданне і намаганні, ніколі не дачакаюцца дзяцей?

Існуе катэгорыя людзей, для якіх не існуе нічога, што не ўпісваецца ў іх галовы. Гэта часта прыкмета атрафіі мозгу. Часам, аднак, нягледзячы на наяўнасць мозгу, нічога апрача яго не змяшчаецца ў аковах іх шчыльных чэрапаў. Без сумневу, некаторыя каталіцкія біскупы не ўстане прыняць да ведама той факт, што светапогляд, які вызнаюць, неабавязкова падыходзіць для ўсіх. Ну, адзін з іх нядаўна звярнуўся да каталіцкіх палітыкаў не падтрымліваць заканадаўства, якое супярэчыць прынцыпам веры. Ён уключыў у іх закон аб in vitro, над якім ад года вядзецца абмеркаванне дэпутатаў. Я не адмаўляю, што кожны грамадзянін мае права патрабаваць у гэтым дачыненні права на сваё пярэчанне. Я не адмаўляю яму права на тое, каб карыстаўся рацыямі дактрыны, на якой стаіць яго светапогляд. Тым не менш лічу, што злоўжывае аргументам — і тут я цытую яго словы: «разважлівага клопату пра агульнае дабро». Перш за ўсё таму, што, паводле майго лінгвістычнага адчування, сэнс тэрміна „клопат", і, перш за ўсё „разумны клопат" не можа быць заснаваны на катэгарычным заклiку да супраціву да натуральнага для чалавека права на лячэнне бясплоддзя. Нават такога спрэчнага лячэння, якім з'яўляецца метад апладнення ў прабірцы. Калі хтосьці нахіляецца з клопатам над агульным дабром, як Аляксандр Лукашэнка над бульбінай, дык цяжка мне назваць гэта клопатам. І нават калі гэта выраз некаторай турботы, дык вельмі нахабнай.

За тыдзень да прэзідэнцкіх выбараў той жа біскуп нагадаў аб праве і абавязку ўдзельнічаць у свабодных выбарах: «Гэтае права і абавязак выцякае з нашай свабоды, а свабода гэта адказнасць за сябе і за іншых. Такім чынам, добраахвотнае адмаўленне ад удзелу ў выбарах гэта грэх бязДзейнасці, таму што гэта адмова ад адказнасці за лёс Айчыны». Наколькі моцныя яго словы, асабліва тыя кляймуючыя грэшныя паводзіны тых, хто адчувае агіду да польскай палітыкі, якога расчаравалі палітыкі, знеахвоцілі партыі беспардонна ваюючыя за кіраванне душамі, і хто лічыць нявыход на выбары як наўмысную і сур'ёзную дэкларацыю адказнасці за лёс Айчыны. Магчыма, настаў час цяпер саграшыць, сказаўшы «не!» усяму палітычнаму істэблішменту, што гэтая ідэалагічная і сістэмная формула, якую ўпарта і на працягу многіх гадоў ён прапануе польскаму грамадству, вычарпалася з момантам, у якім толькі ўзнікла. Як тое славутае слоўца Аляксандра Лукашэнкі: «Мы ўсе гайкі аднаго плуга, бульбу высаджваем на карысць чалавека». Гэ-гэ...

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Опера — новае адкрыццё

Ужо афіцыйна менеджар Дам'ян Танаеўскі з'яўляецца новым галоўным дырэктарам Падляшскай оперы і філармоніі — Еўрапейскага цэнтра мастацтваў. Ён выконваў гэтыя абавязкі ўжо са жніўня мінулага года, калі папярэдняя Ваяводская ўправа Падляшскага ваяводства на чале з маршалкам Яраславам Дважанскім адклікала з гэтай пасады рэжысёра Раберта Скальмоўскага за пяць мільёнаў даўгоў, страту фінансавай ліквіднасці і за надта дарагія пастаноўкі. Дам'ян Танаеўскі, раней намеснік Раберта Скальмоўскага, у выніку конкурсу быў абраны на пасаду аднагалосна (было ўсяго дзевяць кандыдатаў). За час яго працы ў якасці выконваючага абавязкі дырэктара даўгі ПОіФ сталіліся да 2 мільёнаў злотых. Падчас скліканай у апошні час прэс-канферэнцыі ў Маршалкоўскай управе абвясціў, што ён мае намер скласці рэпертуар і ажыццяўляць свае планы з дапамогай мастацкага кіраўніка (яшчэ невядома, хто гэта будзе) і мастацкай рады. ПОіФ мае ставіць па меншай меры адзін буйны оперны спектакль у год. У бліжэйшыя некалькі гадоў будуць гэта самыя папулярныя творы сусветнага рэпертуару: «Тоска», «Лючыя ды Ламермур», «Яўгеній Анегін», «Шукальнікі жэмчугу», «Асуджэнне Фаўста», «Набука», «Кароль Рогер». У рэпертуары навінка, апрача оперных пастановак будуць таксама аперэты: «Графіня Марыца», «Каралева чардаша», «Лятучая мыш» і «Цыганскі барон», якія — як падкрэсліў Дам'ян Танаеўскі — заўсёды выклікаюць вялікую цікавасць у гледачоў, і, такім чынам, з'яўляюцца крыніцай даходу многіх музычных тэатраў у свеце. Ён таксама плануе сумесную творчасць з падляшскімі тэатрамі. Акрамя таго, хоча ўзбагаціць дзейнасць установы цэлым шэрагам мастацкіх пачынанняў, як правіла, ужо пачатых: выставачных, імпрэсарыйных, папулярызуючых мастацтва фільма, «Halfway Festival», міжнародны конкурс маладых дырыжораў імя Вітольда Лютаслаўскага... і новых, як «Гала ПОіФ», гэта значыць спектакль, які складаецца з гітоў пры ўдзеле зменнай групы выканаўцаў — так мастакоў ПОіФ, як і запрошаных гасцей, які «будзе магчыма прадставіць у час розных урачыстасцей». У рамках дзейнасці філармоніі дырэктар Танаеўскі надалей мае намер «працягваць і развіваць традыцыі польскай музыкі, паказваць багацце сусветнай музычнай спадчыны, спрыяць сучаснай музыцы і распаўсюджваць музычную культуру ў краіне і за мяжой».

У рамках дзейнасці ПОіФ як Еўрапейскага цэнтра мастацтваў наладзіць яна таксама «доўгатэрміновае двухбаковае супрацоўніцтва ў галіне культурнага абмену з вядучымі культурнымі ўстановамі Львова, Мінска і Вільні». Плануецца абмен аркестрамі і камернымі ансамблямі ды самымі каштоўнымі мастацкімі пастаноўкамі. Плануецца правесці, у прыватнасці, сімфанічныя канцэрты — падляшскіх артыстаў у Беларускай дзяржаўнай філармоніі ў Мінску, а таксама беларускіх філармонікаў у Беластоку. Аркестр ПОіФ мае паехаць у беларускую сталіцу 26 кастрычніка бягучага года і выступіць там на фестывалі «Беларуская восень», у той час як Камерны аркестр з Мінска прыедзе ў Беласток у другой палове года: «Гэта пачатак супрацоўніцтва з краінамі, што ў суседстве з Усходняй сцяной», — пабяцаў дырэктар Танаеўскі.

Ён паабяцаў, што ў наступным сезоне напэўна будзе праведзены чарговы выпуск фестывалю імя Яна Тарасевіча. Анатоль Вап, дырэктар дэпартамента культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы сказаў: «Ідэя гэтага фестывалю, нарэшце, вяртаецца. Быў арганізаваны толькі адзін раз. Былы дырэктар не зрэалізаваў задум на наступныя. Будзе ён накіраваны ў адпаведнасці са здагадкамі ў асноўным на маладых людзей, якія толькі пачынаюць сваю прыгоду з музыкай. У Беларусі вельмі шмат людзей, якія ўдзельнічаюць у гэтым праекце. Сёлета з-за фінансавых і арганізацыйных прычын ужо не паспеем».

Прыгадаю, што будынак ПОіФ быў адкрыты ў 2012 годзе, а будаваўся за кошт еўрасаюзных і міністэрскіх сродкаў ды бюджэту Падляшскага ваяводства. Агульны кошт будовы склаў больш чым 220 млн. злотых і была гэта адна з самых буйных за апошнія гады культурных інвестыцый у Польшчы. І гэты размах, несумненна, будзе ўплываць на функцыянаванне ўстановы на шэраг гадоў запар, дзе, несумненна, важнымі будуць спадзяванні і задаволенасць гледачоў.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**



# Царква ў Райску

**У 1962-1963 гадах у Райску была пастаўлена царква, перавезеная сюды з Патурына на Холмшчыне. Стаўляла яе брыгада цесляроў з Плюціч, у іх ліку Ян АНОПЮК...**

**— Як Вы самі сталі цесляром?**

— Бацькаў швагер быў спецыялістам. Узяў ён брата за памочніка. А калісь з заробкамі было туга, і школ жа не было. У наступным годзе мне пайшоў сямнаццаты год і мне той дзядзька кажа: прыходзь і ты, то сёе-тое паможаш. І так пайшло. Пасля з братам паставілі адну хату, другую. Брат пайшоў у войска.

**— А дзе тыя хаты вы стаўлялі?**

— Тут, у Плюцічах. У Плюцічах мы зрабілі больш за трыццаць хат. І ў Райску рабілі, і ў Дэнісках, і за Гайнаўкаю, і за Браньскам рабілі. У Малешах, у Буйнове...

**— І ўсё з драўніны?**

— Усё драўлянае. Мы наогул працавалі ўтраіх, але калі набіралі больш работы і не паспявалі, то бралі яшчэ памочнікаў.

**— Вас траіх, значыць Вы, Ваш брат Васіль і яшчэ хто?**

— Швагер, Васіль Астроўскі, таксама з Плюціч.

**— Вы стаўлялі царкву ў Райску; ці таксама ўтраіх?**

— Нас было тады больш: швагер, брат і яшчэ трох.

**— Усе з Плюціч?**

— Не, адзін з Райска, Васіль Пэшка. Прыехалі да нас, каб мы царкву стаўлялі. А мы ж ніколі цэркваў не ставілі, толькі хаты і гаспадарчыя будынкі. То брат з яшчэ адным паехалі ў Райск і спыталіся таго Васіля, а гэта быў старэйшы чалавек, які раней цэрквы рабіў. Спыталі яго: „Дзядзьку, ці бярэмся?" — „Бярэмся", — адказаў ён. Вось так нібы жартам і ўзяліся стаўляць царкву. Ну, але спярша далі план фундамент рабіць. Ляжаць падрубы, а на фундамент, што на плане быў, яны не пасуюць. Тады мы тыя падрубы павымалі і па іх рабілі. А той інжынер ці хто, хто нарысаваў нам план, гаварыў, што мы гэтай задачы не адолеем. Але калі мы падрубы вынялі, то ўжо нам усё стала ясным. І па падрубах мы залілі фундамент.

**— Гэта на месцы ранейшай царквы?**

— Так, але крыху па-новаму. Тую ранейшую царкву зараз пасля расправы з Райскам солтыс паведаміў ехаць разабраць. Яе верх быў спалены, толькі зруб стаяў. Ніхто не хоча лезці наверх, людзі баяцца. А прыехаў з Бельска нямецкі аграном і пытае людзей, чаго стаяць, чаму не разбіраюць царквы. Людзі адказваюць, што баяцца. А ён ім кажа: або наверх палезеце, або пойдзеце ўніз, у зямлю. І тады ўжо людзі сталі лезці наверх і раскідаць мур. З атрыманага матэрыялу пабудавалі ў Хрябалах будынак, дзе цяпер амбулаторыя і яшчэ нейкі будынак у Вышках або Тапчэве.

**— А як тую царкву забіралі з ранейшага месца? Ці вы туды ездзілі?**

— Не, не ездзілі

**— А хто ездзіў?**

— З Плюціч ніхто. Здаецца з Гусакоў ці адкуль. І як напіліся там і пачалі па-нашаму сяваць, то калі б не ўцяклі, то іх пабілі б. Там у царкве склад быў, *навозы* трымалі. А калі прывезлі сюды, паклалі ў абору.

**— А чым тую царкву прывезлі?**

— Вагонам, у Страблю.

**— Тая царква была пастаўлена сто гадоў таму, у 1910 годзе сталі яе там стаўляць. Ці тая драўніна яшчэ добрая была?**

— Царква была з сасніны і сіняга, абалоні, як то ў нас называюць, мала было, а ўсё з сярэдзіны. Шасцідзюймавыя дылі былі, пяці-, а дзе і чатырохдзюймавая драўніна была. Добры спецыяліст яе там стаўляў, добрую драўніну выбіраў.

**— Кажаце, што спярша матэрыял склалі ў аборы...**

— Так, тады абора пустая стаяла, пасля таго, як калгас разышоўся. А ўжо як мы пачалі стаўляць, як падрубы паклалі, то, бывала, што і па пятнаццаць чалавек працавала. Мы заходзілі, выбіралі дылі і распараджаліся, куды што везці, на каторы бок.

**— А тыя людзі адкуль былі?**

— З цэлай парафіі. Хто быў свабодны, той памагаў. Бацюшка Сцяпан Іванкевіч быў чалавекам вопытным. Калі зрабілі закладзіны, то мы дапаміналіся закладзін, калі *вінковэ*, то вінковага.

**— Што абазначае вінковэ?**

— Як кроквы паставім і вянок пачэпім, то вінковэ. А бацюшка не раз прыйдзе і кажа нам: „Вы працуеце і грошы маеце, а я што маю?". Калісь бацюшка ніякіх парафіяльных грошай не трымаў. Была парафіяльная рада, быў староста і яны распараджаліся грашыма. Нам бацюшка ні капейкі не даваў. Толькі староста прыходзіў і пытаў: „Хлопцы, на калі вам грошы рыхтаваць?". А мы былі згоджаны па 150 злотаў днёўкі; бутэлька гарэлкі тады каштавала 120 злотаў.

**— Значыць за дзень зараблялі на бутэльку і крыху закускі. А ў якую пару ставілі: з вясны ці ўлетку?**

— Фундамент зрабілі восенню і, здаецца, з восені пачалі стаўляць.

**— Рабілі зімою?**

— А нам што? Летам жа ў людзей работа. Кожны меў гаспадарку, гэта не тое, што цяпер, калі палі пазабіралі. А зімою што рабіць? Запрагае чалавек каня, яшчэ чатырох ці кольkіх бярэ з сабою тыя дылі вазіць ці наверх падаваць і прыязджае.

**— А колькі чалавек было трэба на будове?**

— Нас, майстроў, было пяцярых. Адны выбіралі дылі, бо ж іх на кучу звалілі як прывезлі.

**— А тых дыляў не пазначылі, з якога яны месца?**

— Былі пазначаны, толькі мы не маглі там дабіцца толку. А то, мабыць, так спецыяльна той, што разбіраў царкву, пазначыў, спадзяючыся, што нам нічога не ўдасца. Але мы неяк памаленьку-памаленьку раскусілі што да чаго. Паставілі мы зруб царквы, а не ведаем як далей, як дах закладаць. Але той, што з Райска быў, меў здымкі старой царквы і мы па тых здымках і па фарбе драўніны гналі царкву ўверх. Зрабілі і бацюшка задаволены быў.

Прыехаў раз бацюшка з Бельска, акурат у велікодную пятніцу. А мы з аднаго крыла, ад поўдня, зрабілі вінковэ і дапамінаемся ў бацюшкі вінковага. А ён вагаецца: „Хлопцы, у велікодную пятніцу вінковэ?". А мы адказваем, што не ведаем, ці дажывём пасля Вялікадня. Ну і наш бацюшка пытаецца ў бельскага, што рабіць. А той адказвае: „Работаюць хлопцы? — работаюць; ну то трэба даць". Зрабілі тое вінковэ, бельскі бацюшка ў Бельск паехаў, а мы свайго запрашаем да нас. Купілі яму рыбную кансерву, бо ж велікодная пятніца. Мы закусваем мясам, а ён, калі выпіў тры ці чатыры кілішкі, замацюгаўся на нас: „То вы, (...), мяса ясце, а мяне рыбаю кормíце?". Мне ён быў прызнаваўся, што калі ездзіў на Холмшчыну арганізаваць перанос царквы да нас, то заўсёды браў наган з сабою. Я заўважаў, што яму такога нельга ж насіць. Мусіў, адказваў мне, бо калі б даведаліся, што я бацюшка, то мяне адтуль не выпусцілі б.

Іншы раз нейкае свята ў царкве правіцца, а і нам трэба работу канчаць. Тады бацюшка гаварыў, каб яму з акна рукою махнуць, што мы ўжо прыйшлі. Так вось спяшаліся мы пад першае вяселле скончыць работу; і трэба было ў свята рабіць. І калі толькі я махнуў з акна рукою, то ўжо па пяці мінутах нікога ў царкве не было.

**— Ці купалы вы таксама рабілі?**

— Усё. І купалы, і вокны. І так нам удалося. Яшчэ ў жывых адзін, якому ўжо 94 гады, і я — мне 85.

**— А яшчэ Вас спытаю пра дом культуры ў Райску — яго прывезлі з Беластока. Ці Вы ездзілі ў Беласток яго разбіраць?**

— Я тады сама ў Беластоку працаваў, пяцьдзясят метраў ад таго дома, у кацельні.

**— То Вы і ў кацельні працавалі, і хаты стаўлялі, і зямлю абраблялі?**

— У кацельні зімою, калі ў полі работы не было. І ў той кацельні накідаю вугалю ў печ і пайшоў на тры гадзіны да таго дома. Людзі перавезлі будынак у Райск, а вясной мы яго там паставілі.

**— І доўга стаўлялі?**

— Няцэлы тыдзень; як пачнём рабіць, то ў нас няма пачакаю.

**— А колькі часу патрабавалі вы, каб паставіць хату?**

— Як добра пойдзе, то дзесяць дзён.

**— І дылі вы самі трачавалі?**

— Не, яны ўжо былі гатовыя. Мы рабілі драчку — абцёсвалі, у сярэдзіну давалі пакулле або мох. У Дэнісках была хата 10 х 8, то ўжо на дзясяты дзень накрылі і вінковэ пілі.

**— Вы крылі таксама, чым?**

— Дахоўкаю. Тады ўжо саломаю не крылі, а *этэрніту* яшчэ не было. І шчыты рабілі, і падлогі, і *полап*, усё. Стаўлялі клуні, хлявы, шпіхеры — што каму трэба было.

**— А калі вы ездзілі далей, напрыклад у Малешы ці Буйнова, то вы там начавалі?**

— Так. Роварамі выязджалі ў панядзелак на цэлы тыдзень. Зімою, калі рабілі ў Залусках пад Браньскам, то па нас прыязджалі і адвозілі. Было там каталіцкае свята, у чацвер. Сярод тыдня нам не пасавала туды і сюды ездзіць. Наш гаспадар быў там акаўскім лідарам. І кажа: „Да вас ніхто прэтэнзії мець не будзе, бо я тут праўлю. Толькі да поўдня нават каб не стукнулі, а пасля можаце выходзіць на работу". Да поўдня нас чатырох і ён пяты выпілі два літры гарэлкі. А ў таго гаспадара было чатырох сыноў і ён ім не пазваляў жаніцца з праваслаўнымі. Але найстарэйшы заўпарціўся і з Дэніскаў узяў. А малодшыя пабралі каталічак. І пасля той гаспадар гаварыў мне, што калі заедзе да праваслаўнай, то ў яе заўсёды пачастунак ёсць, а калі да сваіх, то папракалі яго, чаму раней не званіў, бо не маюць што паставіць на стол.

**— Колькі гадоў Вы займаліся будаўніцтвам?**

— У сямнаццаць я толькі памагаў, габляваў, крыху з майстрам парабіў, калі брат у войска пайшоў. І збрыдла мне — стаў на працу ў Беласток. Амаль год працаваў і забралі ў войска. Калі вярнуўся — брат не мае з кім рабіць. „Не ідзі, — кажа, — да работы, будзем разам рабіць". І так астаўся.

**— А ў якім годзе паставілі Вы апошнюю хату?**

— У 2004-м.

**— Дзякую за размову. А яшчэ больш дзякую за тую прыгожую частку нашай вясковай архітэктуры, да якой Вы прыклалі сваю руку.**

У Плюцічах шмат хат аздобленых прыгожым дэкорам, у тым ліку і хата Яна Анопюка. Па ўсім відаць, што работа адбывалася не толькі з размахам, але і, як гэта па-танцавальнаму можна сказаць, з прытупам.

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



## Наш чалавек у Седльцах



Поспехі нашых супрацоўнікаў і чытачоў — гэта таксама нашы супольныя дасягненні. Публіцыст і карэспандэнт нашага тыднёвіка Адам Бобрык атрымаў на Сілезскім універсітэце званне габілітаванага доктара грамадскіх навук у сферы сацыялогіі. Асновай для гэтага стала кніжка „Грамадскае значэнне функцыянавання польскіх палітычных груповак у Літоўскай Рэспубліцы 1989-2013". Адам Бобрык спецыялізуецца ў даследаваннях нацыянальных і рэлігійных меншасцей. Вынікам яго працы з'яўляецца 130 навуковых публікацый. Значная частка іх тычыцца Беларусі, беларусаў у Польшчы і праваслаўнага асяроддзя. Значную ўвагу прыцягваюць, між іншым, дзве манаграфіі, падрыхтаваныя супольна з матушкай д-р Ізабелай Кохан — „Праваслаўе ў Седльцах" і „Сляды мінулага. Гісторыя і сучаснасць праваслаўя на паўднёва-заходнім Падляшшы ў грамадскай свядомасці". У ліку 42 публікацый, выдадзеных за мяжой (Аўстрыя, Беларусь, Балгарыя, Літва, Расія, Славакія, Украіна), 25 было надрукаваных у Беларусі. Навуковую стажыроўку праходзіў у 2013 годзе ў Дзяржаўным педагагічным універсітэце імя Івана Франко ў Драгобычы (Украіна). Пастаянна працуе ў Гуманітарна-Прыродазнаўчым універсітэце ў Седльцах.

Карэспандэнцыі ў „Ніву" Адам Бобрык дасылае з 2006 года. У гэтым жа часе стаў членам Беларускага гістарычнага таварыства, а ў 2014 годзе быў выбраны членам Рэвізійнай камісіі БГТ. Публікаваў таксама ў „Беларускім гістарычным зборніку", а апошнім часам уваходзіць у састаў калектыву рэцэнзентаў гэтага навуковага выдання. У 2007 годзе стаў членам праграмнай рады штогодніка „Rocznik Grodzieński" (Беларусь). З 2000 года — пастаянны член журы конкурсаў, прысвечаных гісторыі Польшчы, арганізаваных згуртаваннем Польска мацеж школьна.

— Мяне, як старшыню Беларускага гістарычнага таварыства, — сказаў нам праф. Алег Латышонак, — вельмі цешыць, што ў нашых радах на аднаго доктара больш. Арганізацыя мы невялікая, але моцная навуковым узроўнем нашых сяброў. Адам Бобрык не толькі выдатны сацыёлаг, але і гісторык, прычым у сваёй навуковай працы засяроджваецца на праблемах нацыянальных і рэлігійных меншасцей, у тым ліку беларускай і праваслаўнай у Польшчы. Знаходзіць пры тым час на актыўную грамадскую і публіцыстычную дзейнасць. Доктар Бобрык вялікі сябра Беларусі і па меры магчымасцей ладзіць польска-беларускія кантакты і супрацоўніцтва. Віншую Адама, нашага чалавека ў Седльцах (як мы яго называем) з навуковым дасягненнем і сардэчна жадаю далейшых поспехаў! **(аб)**

## ШПІТАЛЬНЫЯ БЫЛІ

# Анёл з бельскага шпіталя

На фоне белых інтэр'ераў бельскага шпіталя выглядае як сапраўдны анёл. Асабліва калі неспадзявана ўваходзіць у паасобныя шпітальныя палаты. Яшчэ не стары, а валасы белыя — быццам з колішняй святочнай ёлкі. Вялікі, залаты шарф з чырвонай вышыўкай, які напамінае вясковы ручнік, блішчыць на снежнабелай доўгай сукенцы. Анёл любіць добра выглядаць і добра з'есці. Найсмачнейшае яму тое, што зварыць сабе сам, але беднаю добрую гаспадыню прыняў бы з ахвотай. Так прынамсі сказаў вучаніцам непадалёкай гастранамічнай школы. Пакуль белую сукенку прыходзіцца мыць і прасаваць самому. Ведае, што некаторых, асабліва тых, якія не хочуць развітвацца з тым светам, ягоны імідж палохае. Гавораць, што чалавек не парася, да ўсяго звыкне, нават да сваіх хвароб.

— Ці шмат ты саграшыла, — звяртаецца да 19-гадовай пацыенткі

— Ад апошняй сустрэчы яшчэ не паспела, — адказвае пакорна, упаўшы на калені, дзяўчына.

З залатой палатнянай торбачкі на залатым шнурочку вымае белую, казачную шкатулку. Са шкатулкі дастае беленькую аплатку і падае дзяўчыне. Памаліўшыся, хвілінку пагаварыўшы і пажадаўшы здароўя, знікае. Асноўная задача анёла — падрыхтаваць пацыентаў да сустрэчы з Богам. Вядома, са шпіталя дарога туды нашмат карotшая, чым з уласнай хаты. Бабу Клаву прывезлі сюды ўчора. Сёння непрытомную верталётам адправілі ў Беласток. Можа яшчэ выратуюць. 50-гадовая Ядзя пасля апошняга памазання, прынятага на шпітальным ложку, вярнулася дахаты.

— На ўсякі выпадак лепш падрыхтавацца, — павучае анёл.

У хаце сядзець яму сумнавата. Нават пагаварыць няма з кім, хіба што з Богам. Кольki ж можна аднаму па лесе шпацыраваць. А ў шпіталі людзей больш, чым на лякарства, а прытым што і раз новыя. Ёсць з кім пабяседаваць, паспяваць калядкі на Божае Нараджэнне. Бывае, што анёл у шпіталь прыходзіць з уласнай гармошкай. Клапоціцца пра людзей і кветкі, якімі ўпрыгожыў шпітальную капліцу. Ведае, што падліць іх шпітальным прыбіральшчыцам не стае ні здароўя, ні часу.



Анёл-ахоўнік пацыентаў бельскага шпіталя

Капліца — як яго вопратка — найпрыгажэйшая ва ўсім шпіталі.

— Ты ўмееш чытаць па-руску? — гутараць седзячы на каплічнай лаўцы пенсіянеры.

— Не, толькі па-нямецку, а можа вы ўмееце? — звяртаюцца да астатніх.

— Прасвятая Багародзіца, збаў нас.

— Значыць, гэта праваслаўная Божая Маці?

— Усе Божыя Маці аднолькавыя — праваслаўна-каталіцкія.

— А той вітраж з Езусам? Тут мусіць галава праваслаўная, а ўсё астатняе каталіцкае?

— Не, ўсё тут каталіцкае — гэта ж рэпліка славутага «Езу, Табе давяраю». А на гэтым вітражы бельская каталіцкая кафедра і таксама тутэйшая праваслаўная царква.

— Такой капліцы, мабыць, няма ў цэлым свеце, — кажа анёл. — Ці дзе-небудзь яшчэ моляцца разам каталікі і праваслаўныя?

Знаходзіцца яна на першым паверсе бельскага шпіталя. Калісь была тут святліца, значыць, некалькі столікаў і крэсел. Цяпер, седзячы ў святле, якое падае праз каляровыя вітражы, хаця на хвіліну можна адарвацца ад бязлітаснай шпітальнай штодзённасці. Яе паўстанне было таксама нечым цудоўным. На працягу двух тыдняў накапілася дастаткова грошай, каб закупіць і аплаціць усё неабходнае, у тым ліку зусім не танныя вітражы.

Цёпла і ўтульна. Дзверы капліцы ніколі не зачыняюцца. У гайнаўскім шпіталі наадварот, капліцу адкрываюць толькі на час багаслужэнняў. Такое рашэнне было прынята пасля крадзяжу каплічных мікрафонаў. У бельскай капліцы мікрафонаў няма. Адзіным злачынствам было знішчэнне некалькіх старонак даступнага ўсім Святога Пісання. Злачынства сапраўды страшнае, але анёл усё-такі капліцу закрываць не згадзіўся. Заглядаюць сюды пацыенты і шпітальны персанал. Прыходзяць, каб хаця хвілінку памаліцца.Часам на каталіцкую службу падаюць праваслаўныя вернікі, а на праваслаўную — каталіцкія. Моляцца за ўсіх аднолькава.

У такіх абставінах анёл, па традыцыі каталіцкі, вымушаны арыентавацца і ў праваслаўных справах. Апошнім разам аднаму з пацыентаў прыйшлося аб'яняць праваслаўнае Трыдуум пасхальнае.

Добрыя паступкі — як грошы, пакладзеныя ў добры банк, заўсёды даюць працэнты. Анёла найбольш цешаць і да слёз хвалююць шкарпэткі. Чысценькія, новенькія шкарпэткі ад праваслаўнага дзядулькі. Прыносіць іх заўсёды, калі кладзецца ў шпіталь. А вось ад каталікоў такога падарунка яшчэ не дачакаўся.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Спрацаваная жанчына

42-гадовай Данцы няма калі паклапаціцца пра сябе, таму і выглядае яна як мінімум на 52 гады. У шпіталь папала з хворымі суставамі і выкручаным у правы бок пазваночнікам. Прыехала сама на прыгожым, жоўтым „Фольксвагене" — падарунку ад цяжка працуючага за мяжой сына.

— Мужык няхай упраўляецца, — махае рукой абыякава, — усё роўна баіцца па горадзе машыну вадзіць.

Здароўе пакінула яе чатыры гады таму. Прошлай восеннню бульбу збірала паўзучы паміж градкамі з кошыкам у зубах.

— Гляньце, Данка ўжо кулясай падпіраецца, — смяяліся нядобразычлівыя суседкі.

На гаспадарцы хварэць няма як. Свінні, цяляты, земляробчыя абавязкі. А калі мужык адправіўся на месяц у санаторыю, засталася зусім адна.

— Цяпер няхай пабачыць як гэта без мяне гаспадарыць, — гаворыць з пачуццём перамогі. — Учора нават хлеб забыў купіць.

Данута вельмі добрая, уражлівая жанчына. Страшэнны боль рук і ног не перашкаджае ёй захаваць аптымізм і раздзяляць яго з іншымі.

— Усё будзе добра, мусіць быць, — паўтарае.

Данку ў шпіталі часта наведвае сяброўка з вёскі. Хворая на рак жанчына безупынна плача і чакае свайго хуткага канца.

— Табе ўнукаў трэба гадаваць, маеш каму жыць, — суцяшае Данка. Сяброўцы абяцала, што калі толькі выйдзе са шпіталя, абавязкова спячэ бляху смачнага, салодкага „крэта". У гэтым не перашкодзяць ёй нават нягнуткія і балючыя пальцы рук.

Свёкра і свякруху родныя дочкі хацелі аддаць у прытулак.



— Нікуды іх не аддам, сама дахаваю, — запратэставала тады Данка.

Усё роўна свякруха да апошніх дзён наракала на яе, расхваляючы пад нябёсы няўдзячных дочак. Здаецца, Данцы пашанцавала сарваць прыгнятаючы сям'ю ад пакаленняў ланцуг няўдзячнасці. Кожны дзень наведваюць яе ў шпіталі сяброўкі, прыходзяць і надта ўдалая дачка. Ніколі з пустымі рукамі. Прынеслі і чайнік, і камп'ютар, усё — а нават больш, чым неабходна. Заінвеставаныя Данкай час і сілы далі плён.

— Хвароба пачалася з левай рукі, — тлумачыць Данка. — На запясці паявіліся два гузы. Пачула дыягназ: амярцвенне касцей. Здранцвелыя пальцы баляць невыносна. Можна аперавацъ, але невядома чым гэта закончыцца, так прынамсі гавораць дактары. Цяпер адымае ўжо правую руку. Гэта вынік паўтарагадовай працы на мокрым аддзяленні на заводзе „Суэмпаль" у Бельску. На мокрым сапраўды мокра. Не засцерагуць нават палатняна-гумавыя рукавіцы і такія ж боты. Тэмпература ў заваадскім цэху і вады ў вялікім баку вельмі нізкая. Тут пачынаецца апрацоўка славутага на цэлы Бельск ласося. Вялікая машына рэжа сырую рыбу на 120-грамовыя кускі, якія з канвеера пападаюць у бак з вадой. Трэба старацца зліваць рыбу з лёту, інакш прыйдзецца выцягваць яе з халоднай вады. Выкладзеныя на сіта кускі ласося прыправаюць і забіраюць у вяндлярню. Гэтай чорнай працай пераважна займаюцца жанчыны, на дзве змены, часам па дзесяць гадзін у дзень. У сезоне працуюць нават сем дзён у тыдзень.

— Найгоршая гэтая вада, — прызнае Данка. — Кансерванты, соль, хлор раз'ядаюць рукі, пакрываюць скуламі. Безупынна цячэ з носа. Перастаюць дзейнічаць суставы і пазваночнік.

— У сезоне дабіваюць фізічна, па-за сезонам — псіхічна. Таму некаторыя і пяць дзён не вытрымліваюць пры канвееры, але большасць будзе рабіць, пакуль цалкам не выматаецца з фізічных і псіхічных сіл.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН


Злева: Віктар Кабац, Тамаш Ціханюк, Даніла Грамацкі, Альжбета Гжыбэк, Аляксандр Гжыбэк

# Кабац і калегі

— Была ў гэты час у Беларускім музеі ў Гайнаўцы свабодная зала, — прызнаўся Віктар Кабац, — дык рашылі мы зрабіць выстаўку прац сяброў Саюза польскіх мастакоў „Польскае прыкладное мастацтва”, да якога належу і я.

Вернісаж выставы дзевяці жывапісцаў пачаўся 26 красавіка і выстава будзе працягвацца да канца мая. Паказаны на ёй працы Данілы Грамацкага, які таксама збірае на майстар-класах у музеі маладых гайнавян. З'яўляецца ён выпускніком гуманітарнага і мастацкага факультэтаў Люблінскага ўніверсітэта і Люблінскай школы мастацтва і праектавання па спецыяльнасці мастацкія і пазалотныя тэхнікі. Прымаў удзел у міжнародных выставах і пленэрах. Аляксандр Гжыбэк з Беластока кончыў Інстытут мастацкага выхавання ў Любліне, займаецца педагагічнай і мастацкай працай. Альжбета Гжыбэк — мастачка і праектантка моды, займаецца станковым жывапісам і стварае эксперыментальную тканіну. Спадарства Гжыбкі на выставу прывезлі цыкл жывапісу пра людзей у горадзе. Ігар Янчук, выпускнік факультэта архітэктуры Варшаўскай палітэхнікі займаецца станковым жывапісам, графікай, праектаваннем інтэр'ераў, працуе рэстаўратарам помнікаў. Міхал Янчук займаецца станковым жывапісам (пейзаж, нацюрморт, партрэты, бытавыя сцэны, абстрактнае мастацтва, копіі майстроў), малюнкам, пастэллю, графікай. Радаслаў Мацей Какарэка, выпускнік факультэта архітэктуры і ўрбаністыкі Варшаўскай палітэхнікі, архітэктар захоплены тэхнікамі рысунку, пастэллю і акварэллю. Апалёнія Ажаховіч — выпускніца Вышэйшай школы мастацтва ў Гданьску, займаецца станковым жывапісам, прыкладной графікай, мастацкім гафтам. Лешак Пільціцкі з Коннага (Супрасльская гміна) таксама выпускнік палітэхнікі, стварае ў розных тэхніках, найбольш любіць акварэль, тэмай прац найчасцей з'яўляецца лясны пейзаж. Цэцылія Сол'ян, выпускніца Вышэйшай мастацкай школы ў Познані, захапляецца жывапісам, унікальнай тканінай, аднаўленнем тканін і сцягоў. Усе яны — тутэйшыя, сабраныя ў мастацкай асацыяцыі, як і старшыня аддзела, Віктар Кабац. Віктар Кабац — адзін з найбольш вядомых гайнавян. Вядомы ён і ўва ўсім наваколлі як барадаты „лясун”— дух пушчы (ён і жыве ў зямлянцы ў Марушцы пад Семяноўкай) з палітрай і пэндзлем, якім увекавечвае няўлоўнасць Белавежскай пушчы. „Я — чалавек пушчы, — кажа Віктар Кабац. — Ад маленства жыву ў пушчы. Калі малюю пушчу — раблю эскізы ў лесе. Мае эскізы гэта невялікі цяг зроблены мокрай тушшу і трохі пастэлямі, дзе захоўваецца клімат пушчы. Месцам майго нараджэння з'яўляецца маленькая вёска Мінкоўка на акраіне Белавежскай пушчы. Пушча ад самога дзяцінства была заўжды побач мяне. Пасля гадоў вучобы — пачаў у Нараўцы, пасля ў бельскім педліцэі і ў студыі ў Лодзі і акадэміі мастацтваў у Торуні, вярнуўся я ў краіну свайго дзяцінства, у вялікую Пушчу. Я чалавек шчаслівы, што гэты кавалачак зямлі напаўняе маё жыццё і творчасць. Гэтаксама як і маіх сяброў, для якіх родныя краявіды і людзі, сярод якіх яны самі — сталі тэмай і натхненнем для іх прац. Я займаюся перш за ўсё алейным жывапісам, пастэллю і ўласнай тэхнікай, змяшанай з элементамі разьбы па драўніне. Актыўна дзейнічаю ў Саюзе польскіх мастакоў, арганізую пленэры і выставы м.інш. у Нараўчанскай гміне. Засяроджваюся і на сваіх персанальных выстаўках. У верасні шыкуецца ў Беларускім музеі мая юбілейная, на васьмідзесяцігоддзе!

— Гайнаўка гэта адзіны горад у ваяводстве, які не мае ані аднаго помніка, які зарэгістраваны як помнік архітэктуры. А столькі было файнага драўлянага будаўніцтва! Славутыя жыллёвыя «чваракі», непаўторныя збудаванні, вартыя таго звання, развалены. Гораду Гайнаўцы тры гады таму мінула 60 гадоў. А мне спаўняецца 80 гадоў, такі каляндар урэдны! 15 верасня пачнецца пленэр у Нараўцы, каля 20 верасня кончыцца, пасля цэлы пленэр пераедзе ў Беларускі музей на адкрыццё выставы, і будзе таксама мая вялікая выстава.

— У красавіку была сустрэча аддзела саюза, згаварыліся, каб зрабіць выставу ў Гайнаўцы. У Беластоку застаўся толькі адзін саюз мастакоў, наш, які гуртуе мастакоў не толькі жывапісу, скульптараў, але і такіх, што займаюцца прыкладным мастацтвам. Маем там каля сарака чалавек, якія хочуць належаць да саюза. Асташэўскі з'яўляецца старшынёй, я яго намеснік. Цяпер у саюз прымаюць кожнага, хто кончыць якую-небудзь вышэйшую мастацкую вучэльню. Бо ён цяпер нічога не дае. Ну, можа толькі ёсць галерэі, якія не прымаюць «аматараў», мусіць у мастака быць членскі білет саюза мастакоў.

— Вядомую ва ўсім свеце белавежскую мастачку Тамару Тарасевіч не прынялі ў свой час у беластоцкі аддзел Саюза мастакоў, палічыўшы яе «аматаркай», хаця мела падтрымку і рэцэнзіі, між іншым, Марыі Анто. А яе «пушчанскія» працы штогод знаходзяцца ў альбомах найлепшага сусветнага мастацтва.

— Гэты саюз цалкам разваліўся, праз спрэчкі з галерэяй-кавярняй «Маршанд», якая яго ўтрымлівала, страцілі сядзібу і вінаватыя гораду яшчэ пару дзясяткаў тысяч злотых, яны падсудныя. Сябры саюза паўцякалі ў варшаўскі аддзел. Там панавала проста кліка, «уклады». Не пускалі да сябе нікога, якім бы хтось не быў вялікім мастаком ці кончыў якую школу. Гэта яны вырашалі хто ёсць мастаком, а хто не. Так і дабіліся да канца, той Польскі саюз артыстаў пластыкаў і графікаў. Два разы прабавалі выбраць новага старшыню і на канец самі развязаліся. Пяцярых перайшло да нас. Думаю, што Тамара, калі ёсць у Белавежы, і схоча, можа стаць сябрам нашага саюза. Я маю тыя альбомы з найлепшымі сусветнымі мастацкімі працамі, а адзін жывапіс Тамары Тарасевіч змешчаны нават на вокладцы. Цяпер у «саюзе» няма асаблівых «какосаў». Калі мастак у саюзе, можа ўсю сваю бухгалтэрыю перавесці праз саюзную, бо ж хто мае галаву да тых спраў. Саюз бярэ тры адсоткі, але тады маецца льгота на матэрыялы і майстэрню ў 25 адсоткаў. Наш шэф (Асташэўскі) на ніякія пленэры не ездзіць, працуе мастаком ва ўправе горада Беластока, займаецца камп'ютарнай графікай. Ёсць у нас мастакі, якія займаюцца і скульптурай, найбольш жывапісам, ёсць пару асоб графікаў. У саюзе мастакоў было найбольш жывапісцаў, і яны прагаласавалі ўсё тое, што хацелі, арганізавалі напрыклад пленэры толькі для сябе, стыпендыі, выезды... А на ўвесь Беласток, на цэлае ваяводства, ёсць шасцярых разьбяроў. Цяпер нават трох прафесіяналаў. Былі быццам бы секцыі, але вялі рэй жывапісцы... У Польшчы існуе цяпер пяць мастацкіх прафсаюзаў па рознай спецыялізацыі...

У Нараўцы рыхтуецца чатырнаццаты мастацкі пленэр:

— Добра што спрыяе войт Мікалай Павільч. Можа, каб змяніўся ён, галерэя імя Тамары Саланевіч магла б перастаць існаваць! Ёсць націскі на тое, каб перамяніць яе ў... мэблевы склад, мэблевую краму, бо жыхары гміны па мэблю мусяць ехаць у Гайнаўку, Беласток. Месца, праўда, ёсць, але там гатовы будынак. «А якіясь там багамазы вешаюць!» Добра, што войт трымае справу... Цяпер мы былі на пленэры манументальнай разьбы ў Каменюках. Але той пленэр арганізавала Нараўка! Напісалі праграму на майстар-класы, за еўрасаюзныя грошы — Еўрарэгіён „Белавежская пушча”. У Нараўцы былі майстар-класы дырыжораў народных хароў, а ў Беларусі за тыя самыя грошы, якія здабыла Нараўка, сарганізавалі скульптурны пленэр. Каменюкі лічацца вёскай, а мае яна вялікі цэнтр культуры. Было дзесяць разьбяроў, і дзесяць аграмадных скульптур паставілі вакол Каменюкоў, на абочыне Пушчы. Самі беларусы ахвотна ездзяць да нас на пленэры, а самі не сарганізуюць такога мерапрыемства, бо на гэта трэба мець вельмі вялікія грошы. А Нараўка арганізуе наступны, міжнародны, вось у палове верасня. І трэба спадзявацца, што вясковая галерэя застанецца галерэяй, а не стане галерэяй гандлёвай!

**Тэкст і фота Міры ЛУКША**

## Змянілася

У Чаромсе па пятніцах і суботах збіраецца рыначак. Паколькі сёлета ў пятніцу выпала 1 Мая, дык ніхто не спадзяваўся, што ў цэнтры пасёлка адбудзецца кірмаш. У мінулым Першамай Чаромха адзначала паводле інтэрнацыянальнага лозунга «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!». Былі першамайскія шэсці з бел-чырвонымі сцягамі і транспарантамі. Калону ўзначальвала шматлюдная група школьнікаў, затым ішлі ветэраны вайны, героі сацыялістычнай працы, перадавыя земляробы, прафсаюзныя арганізацыі, пенсіянеры... Шэсце выходзіла з-пад дома культуры «Калеяж» і праходзіла вуліцамі 1 Мая, Ліпавай ды Фабрычнай. Тут стаяла ганаровая трыбуна. Парад прымалі кіраўнікі гмінных партыйных і адміністрацыйных улад і ганаровыя госці. Пасля кароткай прамовы шэсце разыходзілася. Удзельнікі падаваліся ў суседні лясок. Пачыналася сяброўская выпіўка на ўлонні натуры. ГС забяспечваў каўбаскай, бутэрбродамі і напіткамі. Ды не толькі. На прылаўках можна было яшчэ купіць заранёў падрыхтаваны ГСам дэфіцытны тавар, якога штодзень не хапала ў продажы. Застолле доўжылася да змроку. А на адвячорку пачыналіся танцы.

У ходзе дваццаціпяцігадовага прагрэсу і рыначнай эканомікі многае ў краіне перамянілася. Першамайскія шэсці і традыцыя святкавання адышлі ў нябыт. Засталіся адно ўспаміны і дата з чырвонай паметкай у календары, якой нават гандляры не шануюць. Сведчыць аб гэтым чаромхаўскі кірмаш. Ды не толькі. Працавалі таксама купцы на пасёлку Пяста ў Беластоку, на вуліцы Мешка I. Дзякуючы гэтай навінцы, аб якой даведаўся ад суседа, стаў я ўдзельнікам першамайскага кірмашу ў Чаромсе, на якім зрабіў станоўчую закупку. І вось пачуў такі папрок у адрас гмінных чыноўнікаў ад арлянскага селяніна: «Для такіх няма свята. Падбалі аб тое, каб ва ўік-энд злупіць з чалавека „пляцовэ”». Сумнае, але праўдзівае...

**Уладзімір СІДАРУК**

## Праект працуе

Старшыня Высокаўскага гарвыканкама Мікалай Сачык і войт Чаромхаўскай гміны Міхал Врублеўскі сустрэліся на пасяджэнні каардынацыйнай рады па праекце „Развіццё трансгранічнай аховы акружаючага асяроддзя мясцовасцей Чаромха і Высокае праз пашырэнне каналізацыйнай інфраструктуры”. У абедзвюх мясцовасцях вядуцца работы па будаўніцтве каналізацыі.

Галоўнай мэтай праекта з'яўляецца ахова акружаючага асяроддзя ў прыгранічных раёнах, асабліва на тэрыторыях прылягаючых да Нацыянальнага парку „Белавежская пушча”.

Дзякуючы праекту зменшыцца забруджванне акружаючага асяроддзя Чаромхі і Высокага. Палепшацца ўмовы жыцця людзей прыгранічных тэрыторый.

На пасяджэнні рады ішло абмеркаванне работ па каналізацыі ў Чаромсе і Высокім, вяліся размовы аб супрацоўніцтве на будучыню. Была падпісана дамова аб прыгранічным супрацоўніцтве на 2015-2018 гады.

**Старшыня КРГКАА „Спадчына”**
**Людміла ДУДАР**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# Зорка

для дзяцей і моладзі


# «Ляпіс Трубяцкі» на сцэне БГКТ



У гэты раз, як ніколі раней, варта было пачакаць да канца агляду. Моладзь з праваслаўнай школы ўжо ад пачатку рабіла многа шуму. З'явіліся з гітарамі і бубнамі ды салісткай-прыгажуняй, якая адначасова выступіла ў ролі прэс-сакратара гурта:

— Будзем іграць *Ляпісаў,* — заявіла Дамініка Благушэўская.

— А хто прыдумаў такі *нумар*?

— Самі прыдумалі, — кажа Дамініка. — Нам хацелася сыграць нешта такое, што падабаецца моладзі. Такі сучасны беларускі гіт.

Знаёмства з музыкай гурта «Ляпіс Трубяцкі» пачалося год таму на ўроку беларускай мовы. Спачатку развучылі шэдэўр у стылі рэп «Не быць скотам», а зараз прыйшла чарга на «Месяц».

Гімназісты ўнеслі на агляд не толькі глыток свежага паветра і спантаннасці. Сама Дамініка бліснула як харызматычная салістка. Яе «Месяц» быў файна «сыграны» з версіяй Сяргея Міхалка — непаўторнага вакаліста гурта «Ляпіс Трубяцкі». Шмат хто скажа, што немагчыма заспяваць так як славуты Міхалок. Дамініцы ўдалося! Справілася яна на *шэсць з плюсам.* А ў наступнай песні «Гора за гарой» з рэпертуару беларускай каралевы эстрады Анжалікі Агурбаш (на словы паэта Уладзіміра Някляева) Дамініка падбіла сэрцы ўсіх.

Ад дваццаці гадоў назіраю школьныя агляды. Яны звычайна вытрымліваюць адзін нязменны штамп. Рэдка калі маладыя выканаўцы выходзяць на сцэну з канцэптам, выспетым у іх галаве і душах. Беластоцкія гімназісты даказалі, што такое магчымае. Шкада толькі, што на публіцы засталіся лічаныя асобы і не было каму імі захапляцца. Таму запоўнім гэты недахоп з найбольшай прыемнасцю. Сябры з Беластока захапілі не толькі дозай спантаннасці і жывым адчуваннем беларускай музыкі. І гэта суперклас!

ЗОРКА

## Загадкі з роднай хаткі

У белым сарафане,
пад хусткаю зялёнай
сумуе на паляне
танкавая
(Б.....)

Маладыя спевакі,
а хвасты як венікі.
На платах усе паселі,
вельмі весела запелі.
(П......)

Маленькі сам,
нос доўгі, колкі,
Танчэй, вастрэй
Любой іголкі.
Пакуль ляцеў,
Усё крычаў,
А толькі сеў —
І замаўчаў.
(К....)

## УВАГА КОНКУРС! № 19-15

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 17 мая 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на загадкі № 15-15: шпак, коцік.

Узнагароды, кніжкі сучасных беларускіх аўтараў, выйгралі Мая Грыц, Тамаш Галёнка з КШ № 3 у Гайнаўцы, Бартэк Чамярыс з Нарвы. Віншуем!

Давід ЯСЮК
ПШ імя Кірылы
і Мяфодзія, Беласток

## Казка

Вось казка для самых малых дзетак.

Жыў-быў зайчык. Аднаго дня ён пакінуў сваю родную ніву і пайшоў у цёмны лес. Там ён спаткаў ліса. Той паглядзеў на зайчыка і кінуўся бегчы за ім. Зайчык пачаў уцякаць. Усё ж бег і бег. Выскачыў з лесу і пабачыў свайго бацьку. Той, як толькі пабачыў ліса, кінуўся яму на спатканне. Стары заяц прагнаў ліса.

Малы зайчык ніколі больш не пайшоў у лес.

Ніна МАРЦІНОВІЧ
Лешукі, ПШ у Нараўцы

## Сонца

Прыйшло сонца да мяне
і сказала так сабе:
– Я тут сёння застануся,
заўтра зноў там нараджуся.

Сільвія Грыка,
Міхалова, ПШ, клас пяты «б»

## 26 май

26 май – свята мамы.
Табе даю браткі,
самыя прыгожыя кветкі.
Хоць крыху іх мала,
буду цябе заўсёды кахаць.
Зраблю яшчэ каву
і на стале пастаўлю,
а да гэтага сама спяку
пышны піражок
і скажу пажаданні маёй маме,
каб сум і турботы нашы прапалі.

# ЯК ЛІХВЯР ЧУЖЫМ КАПІТАЛАМ АПЕКАВАЎСЯ

*(грузінская казка)*

Жыў адзін бонза-ліхвяр. Многа людзей прыносіла да яго грошы на перахаванне. І жыў у гэтым горадзе адзін эмігрант. Ён заашчадзіў значную сумку грошай. І думае: «Пакуль мне з'язджаць дахаты, трэба дзесьці грошы схаваць. Бо ўкрадуць, або дзе сам растрачу. Лепш занясу ліхвяру, нахай ён схавае».

Занёс чалавек свае грошы на захаванне. А калі хацеў ужо з'язджаць дахаты, пайшоў зноў да ліхвяра, каб той аддаў яго ашчаднасці.

— Пра якія ашчаднасці ты гаворыш? Я нічога не ведаю пра твае грошы! — пачаў крычаць ліхвяр-бонза.

— Адайце мае грошы, — прасіў пакорна чалавек. — Сям'я мая галадае.

Прагнаў ліхвяр чалавека ды яшчэ паліцыяй яго напалохаў. Ідзе эмігрант па вуліцы і плача.

Жыла ў гэтым горадзе мудрая і добрая жанчына. Убачыла яна небараку і пытае:

— Чаму ты такі заплаканы, браток?

— Заашчадзіў я крыху грошай, занёс ліхвяру на захаванне, а ён зараз не хоча іх аддаць.

Жанчына падумала і кажа:

— Пайду я да ліхвяра са сваёй біжутэрыяй і папрашу, каб узяў на захаванне. Як толькі я развяжу вузялок, вы зайдзіце ўсярэдзіну і дамагайцеся звароту сваіх грошай.

Пасля яна загадала свайму служку:

— Калі толькі ліхвяр верне грошы эмігранту, ты забяжы ў яго кантору і гучна скажы: «Пані, ваш муж з замежжа вярнуўся!».

Сабрала жанчына сваю біжутэрыю і панесла да ліхвяра. Увайшла яна ў кантору і кажа:

— Мой муж з'ехаў у далёкае замежжа. А я баюся, дрыжу, каб мяне не абакралі. Вазьміце маю залатую біжутэрыю на захаванне.

Калі жанчына развязала вузялок, з'явіўся эмігрант і стаў дамагацца звароту сваіх грошай.

— Аддайце пан, калі ласка, мае дзвесце рублёў, якія я пакінуў у вас на перахаванне.

Ліхвяр-бонза падумаў: «Калі я не аддам яму двухсот рублёў, гэтая багацейка набярэ падазрэння і не пакіне сваіх каштоўнасцей».

— Вазьмі, вазьмі свае грошы, — сказаў ліхвяр і аддаў эмігранту яго ныя дзвесце рублёў.

Той узяў грошы ў рукі і пералічвае іх. Тут як тут прыбег слуга і гучна заяўляе сваёй пані:

— Ідзіце хутчэй дахаты, ваш муж вярнуўся!

— Ах! — уздыхнула радасна жанчына. — Мне трэба дахаты. Калі што, дык з мужам прыйдзем.

Так разумная і добрая жанчына перахітрыла ліхвяра-бонзу.

*(Пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*



Гімназісты з Нарвы



Бельская «Тройка»



«Казка» з Гарадка

**Агнешка ЗДАНОЎСКАЯ**
**Грабоўка, ПШ імя Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку**

* * *

**Любім крычаць.**
**Любім сварыцца.**
**Любім ненавідзець.**
**Ці таго хоча нашае сэрца?**
**Стань!**
**Усміхніся!**
**Забудзь пра крык, сваркі, нянавісць!**
**Бо таго хоча нашае сэрца.**

**Юры БАЕНА**

## Дзядуля

**Пасівелі твае скроні,**
**аж душа мая баліць.**
**Прытулю твае далоні.**
**Я і ты — заўжды сябры.**

**Пажартуем, пасмяемся,**
**разам песеньку спяём.**
**Пачытаем казкі, вершы,**
**потым глянем у альбом.**

**Па зялёным мосціку да цябе бягу.**
**Разам мы сустрэнем на лугах вясну.**
**Сонца, сонца, сонейка, ты гары ярчэй.**
**Дзеду, дзеду, дзедачка, толькі не старэй.**

**На вуліцах і на плошчах**
**не адзін ужо ручаёк.**
**Ветрык твары лашчыць, хвошча.**
**Вось ідзем праз Беласток.**

**Людзі, парк, кіно, машыны.**
**Поўны шчасця ў нас дзянькі.**
**Кніжкі, цацкі, магазіны...**
**Мой дзядуля залаты!**

**Па зялёным мосціку да цябе бягу.**
**Разам мы сустрэнем на лугах вясну.**
**Сонца, сонца, сонейка, ты гары ярчэй.**
**Дзеду, дзеду, дзедачка, толькі не старэй.**

## Вершы Віктара Шведа

### Баляць ногі

Скажы нам, малыш,
Куды ты бяжыш?
— Дрэнна сябе адчуваю,
Да лекара спяшаю.

— Ці можаш патлумачыць
Што табе баліць?
Пачулі ад малога:
— Баляць страшэнна ногі.

### Апраўдалася

Спазнілася Натка
У школу на заняткі.
Настаўнік праз хвіліну
Спытаўся аб прычыну.

— Убачыла я зноўку
Надпіс надта лоўкі,
Заўвагу-крамолу:
— Запавольні, школа!

## Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 15:

Соль, перавага, ало, пра, Ліда, прадвесне, лапа, маркіз, моц, чатыры, твар, кактус. Сом, плот, праца, рап, задача, ар, смык, нара, Валерык, ало, год, аазіс.

Дэкаратыўныя наклейкі выйгралі **Наталля Петручук, Дыяна Хіліманюк** з Нарвы, **Сара Скаўронская** з ПШ № 4 у Беластоку, **Вераніка Жох, Іаанна Рута, Аляксандра Буслоўская** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Клаўдзія Сікорская, Юліта Грыка** з Міхалова. Віншуем!

№ 12-15

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Om | | Astra | | Aj | Nos / Polena | | | |
| Maj | | | | Piętro | | Łyżwy | Strona internetowa | |
| | Strój | | Pokój / Rama | | | | | |
| Strzała | | | | | | | | |
| Maj | | | | | | | | Jawa |
| Rzemień | | | | | | | | |
| Oj! | | Arak | | | | | | |
| | | | | | Iwa | | | |

— Першы раз наш калектыў выступіў летам 1974 года на павятовых дажынках у Гайнаўцы. Пасля мы запрэзентаваліся крыху далей ад дому — падчас павятовых дажынак у Сямятычах. Частку нашых жанчын мужыкі не адпусцілі на гэтае мерапрыемства і мы тады спявалі толькі ўчатырох. З гэтага часу мы падчас вясковых урачыстасцей і гмінных мерапрыемстваў сталі спяваць нашы песні, якія развучылі ў маладосці. Мы выступілі нават на Ваяводскіх дажынках у Беластоку. Спяваць мы вучыліся ад Марыі Сапяжынскай, але я была кіраўніком калектыву. У Чыжоўскай гміне не было тады беларускіх калектываў і наш стаў першым, — сказала Ніна Грыгарук, якая ўзначальвае «Незабудкі» па сённяшні час. Выказала яна надзею, што калектыў з вёскі Курашава будзе надалей дзейнічаць і выступаць.



■ Калектыў «Незабудкі» з Курашава. Спяваюць Ніна Грыгарук, Ірэна Несцярук, Валянціна Сачко, Раіса Сцепанюк і Яніна Грыгарук, а на акардэоне падыгрывае Сяргей Аўксеціюк

# «Незабудкам» з Курашава — 40 гадоў

Ніна Грыгарук успомніла, што спачатку ў курашаўскім калектыве спявалі жанчыны — Ніна Грыгарук, Марыя Сапяжынская, Яніна Грыгарук, Марыя Яканюк, Вера Нікалаюк, Ніна Заброцкая, Надзея Артышук, Валянціна Анішчук, Вера Грыгарук, Надзея Гаўрылюк і мужчыны — Віктар Грыгарук, Сяргей Грыгарук, Дзмітры Грыгарук, Сяргей Шпілько, а на акардэоне іграў Мікола Швед.

— Калі мы чарговы раз выступілі ў Беластоку, у будынку Ваяводскай рады, у падарунку далі нам тканіну ў кветкі, з якой мы пашылі сукенкі, першыя нашыя сцэнічныя ўборы. Калі мы паехалі ў Беласток на фестываль «Беларуская песня», там старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Мікола Самоцік заявіў: «Мы вас не забудзем. Будзеце „Незабудкі"». І нас пачалі так называць. Афіцыйна назву «Незабудкі» прынялі мы ў Чыжах, падчас сімвалічных хрысцінаў. Хросным стаў Мікола Самоцік, а хроснай — Кацярына Бай з Чыжоў, якая раней выступіла да нас з прапановай арганізаваць калектыў, — расказала кіраўнік калектыву Ніна Грыгарук.

Падчас сваёй саракагадовай дзейнасці «Незабудкі» рэгулярна выступалі на фестывалі «Беларуская песня», на беларускім фэсце «Купалінка» ў Ляневе, прэзентуюцца падчас «Асенніх сустрэч з беларускім фальклорам» у Чыжах. Ад пачатку калектыў выступае на Археалагічным фэсце ў Збучы і на беларускіх фэстах у Чыжоўскай і навакольных гмінах, прэзентаваўся на «Купаллі» ў Белавежы і падчас белавежскага «Ператоча».

— Беларуская мова і беларуская песня родныя нам. Мы спяваем песні так, як яны ў нашым Курашаве гучалі ў мінулым і толькі дастасоўваем іх да акампанементу на акардэоне. Падыгрывалі нам Мікола Швед і Павел Карзуновіч. Інструктарамі нашымі былі Сцяпан Копа, які таксама падыгрываў нам на акардэоне, і Янка Крупа. Цяпер шматгадовым нашым акампаніятарам з'яўляецца Сяргей Аўксеціюк, — сказала Ніна Грыгарук.

«Незабудкі» выступалі з абрадавымі сцэнкамі падчас агляду «Беларускі абрад на сцэне», спявалі на фестывалі «Там по маёвуй росі» ў Студзіводах. Жанчыны з Курашава прэзентаваліся таксама на Фестывалі нацыянальных меншасцей у Пуньску і на меншасных мерапрыемствах у Сопаце і Гдыні.

— Жанчыны з калектыву «Незабудкі» думаюць пра сябе як пра звычайных вясковых асоб. Яны адкрытыя на іншых людзей. Выконваюць песні, якія развучылі ад старэйшых вяскоўцаў і якія самі спявалі ў маладосці. У Курашаве, як у Чыжах, складана запісаць даўнія песні, бо яны там хутчэй сталі знікаць. Сярод фальклорнай творчасці, якая перадавалася ў Курашаве для спявачак гэтага калектыву ад іх мам, можна знайсці таксама творы з расійскімі і пазнейшымі савецкімі матывамі. Гэтыя песні, побач старэйшага мясцовага фальклору, спяваюць таксама «Незабудкі», а акампанемент у выкананні самавука з акардэонам — аўтэнтычны, бо так раней спявалі песні ў нашых сёлах, — сказаў спецыяліст па фальклоры Дарафей Фіёнік, старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах», які супрацоўнічае з курашаўскімі «Незабудкамі».

— Калі мы былі маладымі, моцна хацелася нам спяваць. Запрашалі нас выступаць падчас гмінных мерапрыемстваў, якія ладзіліся ў Чыжоўскай гміне. Мы часта выступалі падчас фестывалю «Беларуская песня» і вярталіся з прызавым месцам або хаця з вылучэннем. «Незабудкі» — беларускі калектыў, і выконвае песні, якія спяваліся ў Курашаве, Збучы, Лушчах, Тыневічах, адкуль родам былі жанчыны, што выйшлі замуж у Курашава. Гэтых песень мы не перараблялі, але дабаўлялі да іх акампанемент на акардэоне, — сказала Ніна Грыгарук.

За замацоўванне і распаўсюджванне мясцовай культуры «Незабудкі» ў 1996 годзе атрымалі індывідуальныя адзнакі «Заслужаны дзеяч культуры». Цяпер у «Незабудках» спяваюць Ніна Грыгарук, Яніна Грыгарук, Валянціна Сачко, Раіса Сцепанюк і Ірэна Несцярук, а акампанемент на акардэоне надалей ім састаўляе Сяргей Аўксеціюк.

— Я ўжо 20 гадоў акампаную «Незабудкам». Я ў асноўным самавук, хаця крыху вучыўся іграць на акардэоне ў музычным кружку ў Гдыні, калі працаваў у наваколлі гэтага горада. Раней я іграў на вяселлях, вясковых танцах. Выступы з нашым калектывам далі мне задавальненне і магчымасць наведаць розныя месцы. Я вельмі добра ўспамінаю выступленні, бо апрача спеву часта быў пачастунак і спевы ў сваёй кампаніі. Ніна Грыгарук — добрая арганізатарка і душа калектыву, якая развесяляе нас сваім гумарам. Мы часта выступаем на беларускіх мерапрыемствах. Беларуская песня — наша родная песня. Зараз мы многа выступаем у сваёй гміне, але ездзім яшчэ на агляды самадзейнасці, — сказаў Сяргей Аўксеціюк.

У калектыве «Незабудкі» каля сямі гадоў спявае Валянціна Сачко.

— Раней я працавала ў святліцы ў Моры, а Ніна Грыгарук вяла клуб у Курашаве і мы адна адну ведалі. Калі я прыехала жыць у Курашава, Ніна запрапанавала мне спяваць у калектыве і я згадзілася. Зараз не шкадуюся. Я рада, што мела магчымасць пабываць у розных месцах з «Незабудкамі». Хацелася спяваць і радасна было падчас мерапрыемстваў, на якія нас запрашалі, — сказала Валянціна Сачко.

Ірэна Несцярук, прадстаўніца маладшага пакалення ў «Незабудках», і старэйшыя спявачкі пахвалілі Валянціну Сачко за цярплівасць і адданасць справе спявання. У калектыве ад пачатку яго дзейнасці разам з Нінай Грыгарук выступае Яніна Грыгарук. Яна любіць мясцовы фальклор, а спяванне дае ёй энергію да цяжкай сялянскай працы.

— Мы з мужам гадавалі ў мінулым нават па дзвесце свіней у год. Я дома многа працавала. Аднак старалася прыехаць на рэпетыцыі, збіралася, калі наш калектыў выязджаў на выступы. Мы з мужам спраўляліся з сялянскімі абавязкамі. Працуючы на гаспадарцы, можна таксама знайсці час для калектыву. Я вельмі люблю спяваць і гэтая любоў дае мне сілы справіцца з цяжкасцямі, — гаварыла Яніна Грыгарук.

— Нас асабліва радуе, калі людзі прыходзяць на выступленні, каб паслухаць старыя песні. Мы спяваем перш за ўсё для старэйшай публікі, якая асабліва любіць наш рэпертуар. Але і маладыя слухаюць нас таксама. Зараз сучаснага рэпертуару на нашых фэстах многа, але старэйшым людзям асабліва падабаюцца песні з іх маладосці. Я стараюся яшчэ расказваць прыдуманае з гумарам. Адны смяюцца, а другія крытыкуюць мяне за гэтыя аповеды. Але я рада, што іх слухаюць, — гаварыла Ніна Грыгарук.

— Ніна Грыгарук — душа «Незабудак», якая сваёй жыццярадаснасцю мабілізуе да актыўнасці астатніх членаў калектыву. Яна — культурны дзеяч, напісала гісторыю свайго Курашава, піша гумарыстычныя расказы, — пахвалілі спадарыню Ніну Дарафей Фіёнік.

«Незабудкамі» апякуецца Гмінны асяродак культуры ў Чыжах.

— Апошнія касцюмы шылі нам у Мінску на сродкі БГКТ. Раней уборы выканалі мы на сродкі гміннага бюджэту. На выступы возяць нас гмінным транспартам і запрашаюць выступаць на мерапрыемствах у Чыжоўскай гміне, за што мы ўдзячныя войту Юрыю Васілюку. Дбаюць пра нас таксама дырэктар Гміннага асяродка культуры ў Чыжах Юры Якімюк і іншыя працаўнікі асяродка, — адзначыла Ніна Грыгарук.

Апошнім часам «Незабудкі» выступалі на мінулагодніх «Асенніх сустрэчах з беларускім фальклорам» у Чыжах, перад сваёй вясковай публікай, падчас прэзентацыі кніжкі аб Курашаве, у час агляду «Гвязда і калядка» ў Беластоку і падчас фестывалю «Беларуская песня» ў Гайнаўцы.

— Калі нас запросяць і будзе здароўе, выступім падчас бліжэйшых беларускіх фэстаў у нашай гміне, — удакладняе кіраўнік калектыву Ніна Грыгарук. — Зараз ужо не хочацца так ездзіць на выступы, як было ў мінулым. Тады цяжка было дома выседзець. Хацелася паспяваць і пажартаваць. Калектыву мы аддалі сорак гадоў свайго жыцця. Калі мы пачыналі спяваць у «Незабудках», нам было па 20-30 гадоў і мы разам з калектывам многа свету ўбачылі. Зараз у нас, старэйшых спявачак, здароўе слабее, але калі запрашаюць нас і хочуць паслухаць даўняга спеву ў нашай гміне, то не адмаўляемся, бо далей ужо не хочацца выязджаць. Цяпер штораз менш нашых калектываў спявае даўнія песні і калі будуць сілы, то хацелася б яшчэ працягваць традыцыю супольнага спеву песень з нашай маладосці.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

Пры нагодзе паказаў на дошках беластоцкага Драматычнага тэатра імя Аляксандра Вянгеркі спектакляў «Адвечная песня» і «Раскіданае гняздо» ў выкананні акцёраў Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі (РТБД), гледачы мелі магчымасць убачыць выставу «Янка Купала і тэатр», падрыхтаваную мінскім Дзяржаўным літаратурным музеем яго імя і сустрэцца з Андрэем Масквіным, аўтарам трох тамоў альманаха «Nowa dramaturgia białoruska», апублікаваных папольску па яго ідэі і выбару.

# З нагоды візіту РТБД



Андрей Масквін

Выстава была прысвечана драматычным творам паэта і іх тэатральным версіям. Мэтай выставы — як адзначылі аўтары — было паказаць ролю Янкі Купалы ў стварэнні і развіцці беларускага тэатра і драматургіі, а таксама паказаць універсальнасць драм аўтара. Можна было пазнаёміцца, між іншым, з лёсамі спектакляў на сцэне тэатра імя Янкі Купалы з 1944 года, калі Беларускі дзяржаўны тэатр быў эвакуіраваны ў Томск, да сёння. Янка Купала актыўна ўдзельнічаў у падрыхтоўцы і пастаноўцы спектакляў паводле яго ўласных твораў, а асабліва цесна супрацоўнічаў якраз з Беларускім дзяржаўным тэатрам (з 1926 — БДТ-1) у дваццатых і трыццатых гадах дваццатага стагоддзя. З 1944 года тэатр названы ў яго гонар. На працягу гадоў у ім ставіліся «Паўлінка», «Раскіданае гняздо», «Прымакі», «Тутэйшыя» і драматычныя паэмы «Адвечная песня» і «Сон на кургане». Выстава ўключае ў сябе матэрыялы з калекцый музея і архіваў тэатраў: рукапісы, друкаваныя выданні драм Янкі Купалы, фатаграфіі сцэн са спектакляў, плакаты, праграмы, запрашэнні, сцэнарыі твораў «Паўлінка», «Раскіданае гняздо», «Тутэйшыя» і «Адвечная песня».

У размове з «Нівай» дырэктар Нацыянальнага музея літаратуры імя Янкі Купалы Алена Ляшковіч сказала:

— На гэтай выставе мы расказваем аб усіх п'есах і драматычных паэмах Янкі Купалы, якія былі пастаўлены на сцэнах беларускіх тэатраў. Нам вельмі прыемна, што на сцэне РТБД ідуць дзве пастаноўкі па яго творах, тым больш, што паказваецца «Адвечная песня», таму што з яе напісання ён пачаў творчасць як драматург. Адметнай асаблівасцю «Раскіданага гнязда» з'яўляецца тое, што драма была пастаўлена яшчэ перад яе публікацыяй беларускім тэатральным гуртком Фларыяна Ждановіча ў 1917 годзе. Сама п'еса была апублікавана ў 1919 годзе. Гэтай выставай мы хацелі паказаць ролю Янкі Купалы ў станаўленні беларускага нацыянальнага тэатра, а сам ён стаяў каля яго крыніц. На выставе, у прыватнасці, расказваем аб выдатнай купалаўскай «Паўлінцы», напісанай у 1913 годзе, а таксама аб яе першых пастаноўках у Вільні ці Санкт-Пецярбургу. Мы хочам паказаць, што гэтая п'еса Янкі Купалы не толькі з'ява ў Беларусі, але і ўва ўсім свеце, што ставіцца на сцэнах больш за сто гадоў, а да сямідзесяці мінскі тэатр імя Янкі Купалы кожны сезон пачынае якраз ёю. Адзначаем на выставе акцёраў, якія ігралі ў п'есах Купалы ў розных тэатрах. У РТБД па-за дзвюма п'есамі самога Янкі Купалы пастаўлена кранальнае прадстаўленне, прысвечанае жыццю і творчасці Янкі Купалы: «Янка Купала — кругі раю», якое расказвае таксама пра рэпрэсіі, якія яго спасціглі ў 1930-х гадах.

## Драмы выйдуць друкам

Яшчэ да першага паказу РТБД, тобок, прэзентацыі спектакля «Адвечная песня» ў беластоцкім драмтэатры, аб сучаснай беларускай драматургіі расказаў Андрэй Масквін, славіст, доктар, дацэнт у Кафедры міжкультурных даследаванняў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы Факультэта прыкладной лінгвістыкі Варшаўскага ўніверсітэта. У цяперашні час ён выкладае гісторыю беларускай літаратуры, культуры і мастацтва ды беларускую мову. У «Ніве» пісалі мы ў мінулым годзе пра яго кнігу, выдадзеную на польскай мове: «Teatr białoruski: 1920-1930. Odrodzenie i zagłada». Першы том «Nowej dramaturgii białoruskiej» выйшаў у 2011 годзе, а чарговыя — у мінулым годзе і сёлета. Сустрэча была прысвечана, галоўным чынам, дзвюм апошнім. Андрэй Масквін выбраў змешчаныя ў іх тэксты і даў публікацыям увядзенне. Другі том «Życie w pułapce» змяшчае тэксты Юліі Чарняўскай, Мікалая Рудкоўскага, Андрэя Іванова і Алены Паповай. У трэцім томе («Młodzi gniewni»), прысвечаным наймалодшым драматургам, некаторыя з якіх напісалі пакуль толькі адзін-два такія тэксты, чытачы знойдуць сцэнічныя творы Канстанціна Сцешыка, Паўла Расолькі, Мікіты Валадзько, Юліі Шаўчук, Максіма Дасько, Рымы Ушкевіч, Аляксея Нарановіча і Вікторыі Біран. Яшчэ ў першым томе (сем драматургаў, у тым ліку творы Мікалая Халезіна, Алены Паповай і Канстанціна Сцешыка) Андрэй Масквін адзначыў, што «беларуская драматургія першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя не можа пахваліцца гучнымі іменамі». На яго думку, найлепшыя сцэнічныя творы гэтага перыяду належаць Янку Купалу (згадвае «Паўлінку» — 1912 г. і «Тутэйшых» — 1922 г.) і Францішку Аляхновічу («Цені» — 1920 г.). У савецкі перыяд найбольшую вядомасць атрымалі сцэнічныя творы Кандрата Крапівы, Андрэя Макаёнка і Анатоля Дзялендзіка. Часта здаралася, што досыць важным крытэрыем поспеху драматурга ў Беларусі ў савецкі перыяд была пастаноўка яго твораў на сцэне сталічных расійскіх тэатраў. Гэта было дасягнута толькі Алесем Дударавым, чые драмы «Шараговыя» і «Вечар» апынуліся на афішах Малога тэатра і МХАТа імя Чэхава ў Маскве. Росквіт беларускай драматургіі трапляе на 20-я і пачатак 30-х гадоў XX стагоддзя. Якраз тады паявілася цэлая група пісьменнікаў, якія былі свядомымі ролі і месца драматургіі і роднай мовы ў развіцці беларускага тэатра (Максім Гарэцкі, Змітрок Бядуля, Уладзіслаў Галубок, Леапольд Родзевіч, Міхайла Грамыка ці Міхась Чарот). Аднак, гэты пазітыўны працэс працягваўся нядоўга. У пачатку сустрэчы Андрэй Масквін не прамінуў згадаць РТБД, пры якім працуе Цэнтр беларускай драматургіі (ЦБД), які займаецца прасоўваннем сучасных драм, напісаных у Беларусі і заахвочваннем да іх стварэння:

— Вельмі люблю гэты тэатр, і часта яго наведваю. Мае ўнікальны калектыў. ЦБД — адзіны такі ў Беларусі. Займаецца новымі беларускімі драмамі. Працягвае развівацца. Няма, аднак, у Беларусі такога цэнтра, які спрыяў бы гэтай маладой драматургіі на Захадзе.

Ён адзначыў, што ў Беларусі не выдаюцца ў больш шырокім маштабе сцэнічныя творы сучасных драматургаў (па-за некалькімі нішавымі часопісамі або ў інтэрнэце). Гэта павінна змяніцца ў наступным годзе, таму што Міністэрства культуры па просьбе ЦБД пагадзілася выпусціць анталогію такіх твораў, і, магчыма, яны затым з'явяцца ў выглядзе штогодніка.

## Расказваюць пра беларусаў

Масквін спаслаўся на артыкул мінскага штотыднёвіка «Культура», у якім голас аб сучаснай беларускай драматургіі ўзялі мастацкія дырэктары найбольшых тэатраў у Беларусі, і які стаў падставай для стварэння ім трэцяга тома анталогіі. Большасць паставілася да яе неахвотна, а Генадзь Мушперт, мастацкі кіраўнік Драматычнага тэатра ў Гродне прама сказаў: «У цэлым я не зацікаўлены беларускай сучаснай драмай. Яшчэ я не прачытаў п'есы, якую можна было б паказаць гледачам за грошы. Новая драма гэта эксперымент. Моцная беларуская драматургія яшчэ не нарадзілася»:

— У апошнія 10-12 гадоў у Беларусі з'явілася цэлая група цікавых маладых творцаў, якіх я палічыў вартымі таго, каб іх творы перакласці і прадставіць у Польшчы. Існуе ў Польшчы некаторая цікавасць ва ўсходняй драмы — расійскай, украінскай і беларускай. Зараз гэта бум на ўкраінскую, але прыйдзе час і на беларускую.

На яго думку, пачаткам новай эры ў беларускай драматургіі трэба палічыць 2000 год. Менавіта тады нікому невядомы студэнт юрыдычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Андрэй Курэйчык (1980 г. нар.) за свой кошт апублікаваў анталогію «Избранные пьесы», якая складаецца з сямі сцэнічных твораў. Прадстаўленыя ў чарговых тамах анталогіі Андрэя Масквіна драматургі не ствараюць якой-небудзь групы, ані якой-небудзь плыні. Іх творы прадстаўлены ў анталогіях паводле ключа, які ён прыняў, больш кіруючыся тэматыкай твораў, чым іх фармальнымі фактарамі, якія вылучае, асабліва ў трэцім томе, напрыклад, выкарыстанне гутарковай мовы. У прадмове да трэцяга тома ён пісаў: «Перш за ўсё, яны спрабуюць сказаць горкую праўду аб сучасным свеце, аб маладым пакаленні, якое павінна змагацца з абыякавасцю і цынізмам дарослых, аб разбіцці міжасобасных адносін. Іх творы можна палічыць голасам цэлага пакалення»:

— Што звязвае самы бліскучы перыяд беларускага тэатра і драматургіі XX ст. і сённяшні — гэта факт, што яны гавораць пра сучасную Беларусь і беларусаў.

Два праманаваныя тамы «Новай беларускай драматургіі» былі выпушчаны Кафедрай міжкультурных даследаванняў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы Факультэта прыкладной лінгвістыкі Варшаўскага ўніверсітэта. Напісаныя аўтарамі парускy драмы, якія ў іх апынуліся, былі перакладзены на польскую мову ў асноўным займаючыміся перакладамі студэнтамі і акадэмічнымі даследчыкамі.

## Таму што я не кан'юнктуршчык

Як мы ўжо пісалі ў папярэднім нумары «Нівы», візіт РТБД стварыў таксама магчымасць размовы з мастакамі гэтага тэатра. У нас была магчымасць, сярод іншага, спытацца ў карыстаючагася вялікай папулярнасцю ў Беларусі акцёра тэатра і кіно (сыграў больш чым у 50 фільмах, у тым ліку ў ірландскім «Дзвер», намінаваным на прэмію «Оскар»), родам з Полацка, выступаючага на сцэне гэтага тэатра з 1994 года Ігара Сігова аб прычынах яго звальнення з пасады мастацкага дырэктара РТБД. Фармальна яго кантракт не быў падоўжаны. Гэтае рашэнне выклікала буру ў мінскім мастацкім асяроддзі. Афіцыйнай прычынай яго звальнення былі праблемы са здароўем. Выконваў гэту функцыю коратка — ад сакавіка 2012 года. У маі 2014 года на яго месца быў прызначаны першы намеснік міністра культуры Беларусі Уладзімір Карачэўскі, аматар спеваў, што, зрэшты, даказаў падчас аднаго са спатканняў з беластоцкай публікай. Як пісалі незалежныя беларускія СМІ, Ігару Сігову атрымалася ўвесці ў тэатр «новы, падбадзёрваючы дух», у тым ліку звярнуць увагу на маладую беларускую драматургію, не заўсёды падыходзячую да культурнай палітыкі дзяржавы і дзяржаўнай ідэалогіі:

— Я перастаў быць галоўным выканаўчым дырэктарам таму, што я не кан'юнктуршчык. Я не чалавек сістэмы, заснаваннай на тым, каб нічога не рабіць і нібыта вырашаць пытанні. Звальняючы мяне гаварылі, што я не разумею праблематыкі звязанай з адмінстрацыяй, я з'яўляюся творцам і гэтым павінен займацца. Я сказаў міністру культуры, што прымаць бягучыя рашэнні трэба з дня ў дзень, а не чакаць на працягу некалькіх месяцаў, калі тыя праблемы ўжо састарэлі, як гэта было з боку міністэрства, калі я кіраваў РТБД.

І дадаў:

— Цяпер мне стала намнога лягчэй, менш стала турбот: выходжу на сцэну і ўсё. У мяне няма такіх праблем, як знайсці грошы на бліжэйшыя спектаклі, або як павялічыць заробатную плату. Тым больш мне лягчэй, таму што цяпер у Беларусі рэзка скарацілі грошы на тэатры. Даюць грошы толькі на адну пастаноўку ў год, і астатнія спектаклі трэба зрабіць на ўласны рахунак. Такі падыход быў прыняты ў гэтым годзе, у 70-ю гадавіну заканчэння Другой сусветнай вайны.

Найважнейшыя беларускія тэатры за адведзеныя дзяржавай грошы на адзін спектакль, рэалізуюць прадстаўленні звязаныя з гэтым юбілеем. РТБД ставіць п'есу «Дзед» у рэжысуры Дзяніса Паршына, якая мае адказаць на пытанні аб маральных аспектах вайны. Прадстаўленне, прысвечанае ветэранам Вялікай Айчыннай вайны, а галоўны герой з'яўляецца адным з іх.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

**Вось кур'ер** прыходзіць да цябе і кажа, што мае для цябе накладную пасылку (za zaliczeniem pocztowym). Кошт каля 500 злотых. На пасылцы тваё імя і прозвішча ды правільна напісаны адрас. Адпраўнік — кампанія «X», якой не ведаеш і ў якой ты нічога не заказваў. Кур'ер заяўляе, што нічога яму пра яго невядома, яго задача толькі даставіць пакет і атрымаць грошы, але калі ты сумняваешся, дык гэта можа быць растлумачана па тэлефоне. Кур'ер пытаецца, ці можа ў гэтым выпадку пазваніць ад цябе ў фірму і хутка ўсё высветліць. 99% людзей, не падазраючы падману, дазваляе кур'еру зайсці ў сваю хату, паказвае дзе тэлефон, каб растлумачыць гэтае пытанне як набраў нумар тэлефона, які ўсталяваны дзесьці ў арандаванай (ціха) кватэры (у дадатак, на левыя паперы), і ў гэтай асаблівай кватэры стаіць маленькая несамавітая прылада, якая імгненна перанакіроўвае, калі толькі туды пазвоніш.

У вас ёсць шанц паскардзіцца ў TPSA? Не, таму што падключэнне выйшла з твайго нумару тэлефона, і, такім чынам, з твайго дазволу, так што прайграеш у судзе...

**Нумар на ТэПСу.** Чалавек тэлефануе табе і кажа, што ён працаўнік Польскай тэлекамунікацыі. Паведамляе табе, што толькі што змянілі кабельную, распаўсюджвальную скрынку або што-небудзь яшчэ. У сувязі з гэтым мантажнікі

# Тэлеасцярогі
# Будзь пільным і не дазволь ашукаць сябе махлярам!

мага хутчэй. Кур'ер выконвае кароткі тэлефонны званок (1 хвіліна), быццам звоніць у фірму, пытаўшыся, ці мела месца памылка, пасля паведамляе, што на самой справе гэта памылка, ветліва просіць прабачэння і выходзіць. Праз месяц прыходзіць да цябе тэлефонны рахунак на каля 10 тысяч долараў.

Чаму? Таму што гэты нявінны кароценькі званок у міжчасе праляцеў увесь свет праз камерцыйную пераадрасацыю выклікаў (Сейшэльскія выспы, Балі, Кайманавы выспы, і многія іншыя месцы, і ўсё аўтаматычна), каб нарэшце трапіць у секс-лінію ў Аўстраліі. Як гэта магчыма?!. — ставіш сабе пытанне. У рэшце рэшт, ты ж глядзеў на рукі кур'ера, і было ясна, што набірае нумар стацыянарнага тэлефона! Так, гэта праўда, кур'ер

TPSA тэстуюць званкі і просяць пацвярджэння іх належнага функцыянавання, націснуўшы клавішы: 9, 9#, 09, 09#, 90,90#. Не націскай! Нічога не пацвярджай! Калі гэта зробіш, будзеш перанакіраваны на секс-лінію (на твой кошт, вядома) у Вялікабрытанію праз палову свету праз Ціхі акіян (востраў Н'юэ ў гэтай справе перадавік!). І нават калі адразу кінеш трубку, гэта нічога не дасць! Спалучэнне не закончыцца да 5 хвілін. Кошт каля 1500 злотых.

Калі хтосьці патэлефануе табе і скажа, што ты **нешта выйграў**, неадкладна кідай трубку і нічога не націскай, ніякіх нумароў, зорак або крыжыкаў. Калі пазвоніць табе хтосьці табе невядомы, ці будзе гэта фірма, ці нейкая прыватная асоба, і просіць цябе патэлефанаваць ёй у любы час, не рабі гэтага! Гэта можа каштаваць табе 320 зл. За адзін званок! Май на ўвазе, што ашуканцы часта прыкідваюцца рознага тыпу ўстановамі або аддзеламі жыллёвых кааператываў. Калі адміністрацыя або іншая ўстанова будзе мець да цябе справу, вышле табе ліст!

**Як бараніцца?**

Падумай і нічога на «ўра»! Нічога не націскай і нічога не пацвярджай. Звярнуцца ў сервісны цэнтр свайго апарата, напрыклад, TP SA (9393 — але тут увага, таксама ёсць дзявяткі!), і патрабаваць заблакаваць усе камерцыйныя нумары: 0-700..., 0-300..., 0-400..., а таксама магчымасць перанакіравання на іх. Заблакаваць усе нумары: міжгароднія, міжнародныя і мабільныя. Кожны апарат абавязаны прадставіць табе код актывацыі такіх выклікаў і другі код дэактывацыі такіх званкоў. Няма іншага шляху! Атрымаеш ад апаратара два асабістыя паролі і не паказвай іх нікому. Памятай! Захавай даты і час выкліку апаратара для блока гэтых нумароў. Захавай імя асобы, якая прымала тваю заяву. Захавай нумар заявы. Пасля патрабуй пісьмовага пацвярджэння ад апаратара таго факту, што твае задачы зрэалізаваны. А калі будзеш мець гэта ў пісьмовай форме, дык калі б што, дык выйграеш у любым судзе. Гэтую інфармацыю маем ад працаўніка аддзела скаргаў у TP SA.

Калі патэлефануе табе хтосьці, што выйграў ты **штосьці ў конкурсе** (пераважна эксклюзіўны тур) і ў дадатак будзе прасіць націснуць «9», каб пацвердзіць паведамленне, калі ты гэта зробіш, дык ляжыш ніцма — сувязь з гэтай лініяй каштуе 20 фунтаў за хвіліну, таму што выклік перанакіроўваецца праз Кайманавыя выспы на секс-лінію ў Англіі. Нават калі адразу кінеш трубку, гэта нічога не дасць, таму што адключыцца яна праз 5 хвілін. Але калі дасі сябе ашукаць, праз наступныя дзве хвіліны атрымаеш пацвярджэнне, што, вядома, ты нічога не выйграў. Кошт такой размовы складзе каля 260 фунтаў. Адзінае, што можна зрабіць, гэта адразу ж пасля атрымання такога выкліку як мага хутчэй адключыцца. Можа таксама пазваніць хтосьці, хто прытвараецца тэхнікам TPSA, і папрасіць пацвердзіць нумар тэлефона, націснуўшы «9». Эфект такі ж, як апісаны вышэй. Гэтая праблема датычыць і ўласнікаў мабільнікаў. Ніколі не націскайце 9 або 9.0.# або 0.9.# у гэтых камбінацыях. Звычайна звоніць нумар 07090203840. Гэты нумар можа адрознівацца апошнімі 4 лічбамі. Спачатку з'яўляецца як прапушчаны выклік. Не адзвоньвай на гэты нумар, таму што спалучэнне варта 320 злотых за адну хвіліну; гэта секс-лінія ў Аўстраліі. Паколькі ў Англіі гэтая практыка з'яўляецца незаконнай, тыя кепікі перанесліся ў Польшчу. Так што не гавары з кімсьці, хто табе «ўціскае кіт», што ты штосьці выйграў. Асабліва **УС** няхай матае гэта на вус!

**Ясюк СТРУК**

**http://kupalauski.by**

Тэатральнае мастацтва ў кожнай краіне ў многім вызначаюць некалькі тэатраў, якія з'яўляюцца знакавымі для нацыянальнай драматургіі. Беларускую драматургію немагчыма ўявіць без аднаго са старэйшых тэатраў — Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Яго будынак у Мінску быў закладзены ў 1888 годзе, а праз два гады ён, тады ў якасці Мінскага губернскага тэатра, расчыніў свае дзверы для першых гледачоў. Доўгі час пасля падзей 1917 года ён насіў назву Беларускага дзяржаўнага тэатра. У 1944 годзе тэатру прысвойваюць імя Янкі Купалы, а ў 1955 годзе ён становіцца акадэмічным. Цяперашняя назва тэатра зацвярджаецца падчас апошняга непрацяглага перыяду беларускага нацыянальнага адраджэння — у 1993 годзе. І менавіта з гэтай назвай тэатр займеў сваё прадстаўніцтва ў інтэрнэце, якое месціцца па адрасе **http://kupalauski.by**.

Сайт тэатра выглядае вельмі прэзентабельна. Адразу адчуваецца, што над яго стварэннем працавалі прафесіяналы. Дзякуючы гэтаму, блізка пазнаёміцца з тэатрам можна „паблукаўшы" па рубрыках і старонках яго віртуальнага прадстаўніцтва. Так, з галоўнай старонкі мы адразу даведваемся аб галоўных спектаклях і датах іх паказаў. Прычым гэтыя абвесткі аздоблены здымкамі акцёраў у адпаведных пастаноўках. Цікава, што сярод найважнейшых з гэтых афішных паведамленняў — інфармацыя пра тое, што „пастаноўкі Купалаўскага тэатра цяпер можна глядзець з сінхронным перакладам на англійскую мову". Таму, жадаючыя слухаць спектаклі не на мове Купалы і Коласа, а толькі Шэкспіра і Льюіса Кэрала, могуць бясплатна скарыстаць прапанаваным прыстасаваннем.

Галоўная старонка сайта тэатра нібыта падзелена на дзве часткі. Першая — гэта афіша. А другая, якая ідзе ніжэй, прадстаўляе больш падрабязны расповед пра тэатр. Менавіта там месціцца калятэатральныя навіны. Адна з якіх распавядае, што сайт Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы прызнаны лепшым у намінацыі „Культура і мастацтва" конкурсу „Інтэрнэт-прэмія ТІВО-2015". „Штогод у Мінску праходзіць міжнародны выставачны форум ТІВО, прысвечаны тэлекамунікацыям, інфармацыйным і банкаўскім тэхналогіям. Падчас форуму падводзяцца вынікі конкурсу лепшых беларускіх інтэрнэт-праектаў. Сёлета пераможцаў вызначалі ў 15 намінацыях: „Грамадска-важны праект", „Адукацыя і навука", „Спорт, турызм і забавы" і іншыя. Сярод дзясяткаў намінантаў журы адзначыла і наш рэсурс", — радасна распавядаюць уладальнікі сайта.

Прыемна бачыць, што навіны на сайце абнаўляюцца вельмі часта, улічваючы, што гэта ніякі не інфармацыйны партал.

Ніжэй навінаў знаходзяцца рубрыкі, што тычацца гісторыі тэатра, яго трупы, кіраўніцтва і нават будынка. Але найбольш вартым увагі там падаюцца словы сённяшняга мастацкага кіраўніка тэатра Мікалая Пінігіна. „Для кожнай краіны нацыянальны драматычны тэатр з'яўляецца вялікай каштоўнасцю. Ён размаўляе з гледачом мовай свайго народа, выказвае праз сваю літаратуру думкі і пачуцці нацыі. Я спадзяюся, што і надалей Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы будзе максімальна адпавядаць народнай душы, падтрымліваць традыцыі і адкрываць новыя імёны беларускіх пісьменнікаў. Каб мары нашых геніяў Купалы, Коласа, Багдановіча аб незалежнай, вольнай, адукаванай Беларусі спраўдзіліся", — кажа ён.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

# Дата з календара



Журналіст, выдавец, дзеяч БХД

## 115 гадоў з дня нараджэння Адольфа Клімовіча

Заходнебеларускі грамадска-палітычны дзеяч Адольф Клімовіч нарадзіўся 5 траўня 1900 г. у мясцовасці Казаноўшчына тагачаснага Свянцянскага павета. Цяпер гэтая вёска ў Астравецкім раёне называецца Клюшчаны. Мястэчка вядомае ў нашай гісторыі таксама тым, што тут працаваў знаны беларускі святар Казімір Сваяк (Канстанцін Стаповіч), які стварыў у вёсцы беларускамоўны касцельны хор і суполку „Хаўрус сваякоў". У мясцовым касцёле ёсць пра гэта адпаведная памятная дошка. У гэтай суполцы і навучаўся Клімовіч.

Паходзіў Адольф Клімовіч з сялянскай сям'і, яго бацька Юстын быў кавалём. Маці Петранеля нібыта была выхавальніцай панскіх дзяцей і ў першым шлюбе была замужам за эканомам маёнтка Сволькенаў, добра ведала французскую мову. Бацька памёр, калі Адольфу Клімовічу было толькі 4 гады. Адольф скончыў Свянцянскую пачатковую школу, пасля Віленскую беларускую гімназію. Быў там адным з арганізатараў часопіса „Маладое жыццё". У 1928 г. скончыў факультэт аграноміі ў Карлавым універсітэце ў Празе. У час навучання там кіраваў аддзелам міжнародных зносін Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый. Публікаваўся ў часопісе „Студэнцкая думка". Пасля вяртання на Бацькаўшчыну актыўна ўдзельнічаў у беларускім руху. Настаўнічаў у беларускай гімназіі і беларускай настаўніцкай семінарыі ў Вільні (1928-1931 гг.).

У 1929 г. Клімовіч быў абраны віцэ-старшынёй Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. У 1932-1939 гг. рэдагаваў часопіс „Самапомач", супрацоўнічаў з часопісам „Калоссе". У 1938 г. высылаўся тагачаснымі ўладамі Польшчы з Вільні. Актыўны дзеяч Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, у 1939-1940 гг. удзельнічаў у выданні папулярнай газеты „Беларуская крыніца". У Вільні былі выдадзены яго рэферат „І культура, і палітыка", прачытаны на з'ездзе БХД, „Лекі на здзекі: папулярны нарыс кааператыўнай самапомачы" і зборнік гаспадарчых рэкамендацый „Земляробская чытанка. І-я частка".

У час Другой сусветнай вайны Адольф Клімовіч працаваў у Беларускай самапомачы ў Лідзе. У 1944 г. з'ехаў у Прагу. А ў 1952 г. арыштаваны МГБ БССР і перавезены ў Маскву. Прайшоў жахі сталінскіх катавальняў. 28 лютага 1953 г. ваенным трыбуналам Маскоўскай ваеннай акругі засуджаны да вышэйшай меры пакарання. У красавіку 1953 г. расстрэл быў заменены 25 гадамі зняволення. Вярнуўся Клімовіч з савецкага канцлагера ў 1956 годзе. Аднак жыць у Вільні яму забаранілі, таму пасяліўся ў Барысаве, дзе працаваў арганістам у касцёле. У Вільню перабраўся ўжо ў 1960 г., жыў у нашай старадаўняй сталіцы, працаваў арганістам у касцёле на Звярынцы. Памёр там 24 лістапада 1970 г. Пахаваны згодна з апошняй воляй у Клюшчанах побач з магіламі бацькі і маці. На помніку лацінкай па-беларуску выбіты словы: „У табе, Божа, паклаў я надзею, хай не буду адкінуты навекі. Te Deum Laudamus".

Склаў біяграфічны слоўнік беларускіх культурных і палітычных дзеячаў — рукапіс гэтай працы захоўваецца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы НАН Беларусі. Пакінуў Адольф Клімовіч і каштоўныя ўспаміны пра многіх беларускіх каталіцкіх святароў свайго часу.

**Падрыхтаваў Уладзімір Хільмановіч**

Адгалоскі

# Пра рэпартажы Аляксандра Вярбіцкага

Мне вельмі падабаюцца рэпартажы Аляксандра Вярбіцкага пра гісторыю розных месцаў, якія ў цяперашні час або ў мінулым населеныя былі праваслаўнымі або ўніятамі — усходнімі славянамі — беларусамі.

У апошнія некалькі тыдняў па дарозе з Драгічына да Сакалова-Падляшскага з'явіліся таблiцы з інфармацыяй пра гістарычныя помнікі, такія як «даўняя царква» (на польскай мове). Знаходзяцца яны ў наступных месцах:

1. каля 0,5 км да вёскі *Skrzeszew*, дарога направа: «даўняя царква»,
2. у вёсцы *Skrzeszew*, адразу за касцёлам, дарога налева: «шлях Сакалоўскіх уніятаў»,
3. каля 1,5 км да вёскі *Rэпкі*, дарога налева: «даўняя царква»,
4. у канцы вёскі *Рэпкі*, дарога направа: «даўняя царква»,
5. у вёсцы *Bachorza*, каля 2 км да Сакалова-Падляшскага, дарога направа: «даўняя царква, касцёл у *Rogowie*».

Можа спадар Вярбіцкі напісаў бы пра гісторыю мясцовасцей, якія знаходзяцца на поўдзень ад ракі Буг, у Мазавецкім ваяводстве?

Цяпер насельніцтва тых мясцовасцей каталіцкае. Думаю, што людзі нават не ведаюць аб тым, што іх прапрадзеды былі беларусамі — праваслаўнымі, грэка-каталікамі.

Так будзе ў будучыні і на Беласточчыне, калі Праваслаўная царква ў Польшчы не перастане паланізаваць сваіх вернікаў. Гэта відаць па колькасці праваслаўных, якія пераходзяць на каталіцызм, хрысцяць дзяцей у Каталіцкім касцёле.

Да ўтрымання праваслаўнай тоеснасці патрэбныя два фактары: пачуццё праваслаўнасці і пачуццё беларускай або ўкраінскай нацыянальнасці. Ніхто на даўжэйшы час не схоча быць «**prawosławnym Polakiem**», лепш быць «**prawdziwym Polakiem**», значыць, «**Polakiem katolikiem**».

**Георгі ЗЮЗЯ з Рудні**

# ДНІ СЛАВЯНСКАЙ ПІСЬМОВАСЦІ

## Бельск-Падляшскі 23-24 мая 2015 г.

## 23 мая (субота)

### Музей малой бацькаўшчыны ў Студзіводах

**13.00 —** Музыкалагічны семінар «Даўняя царкоўная музыка і традыцыйны спеў беларускага Палесся» з удзелам спевакоў са Сташан Пінскага раёна і Лееснікоў Драгічынскага раёна. Вядучыя — Марцін Абійскі і Дарафей Фіёнік.

### Пакроўская царква ў Бельску-Падляшскім

**17.00 —** Усяночнае Бдзенне, спяванае візантыйскімі мелодыямі. Спявае Марцін Абійскі з камерным хорам ім. Багдана Анісімовіча.

## 24 мая (нядзеля), Дзень свсв. Кірылы і Мяфодзія

### Пакроўская царква ў Бельску-Падляшскім

**10.00 —** Святая Літургія, спяваная мелодыямі «Супрасльскага ірмалагіёна». Спявае камерны хор ім. Багдана Анісімовіча пад кіраўніцтвам Марціна Абійскага.

### Свята кнігі — пляц пры Ратушы ў Бельску-Падляшскім

**13.00-17.00 —** Презентацыя кніг розных выдаўцоў з Польшчы і Беларусі, кірмаш кнігі, прэзентацыя даўняга мастацтва кнігадрукавання.

— Ушанаванне беларускага паэта Віктара Шведа з нагоды 90-х угодкаў з дня нараджэння.

— Адкрыццё выстаўкі, прысвечанай 100-й гадавіне Бежанства, падрыхтаванай Фондам князя Канстанціна Астрожскага.

— Канцэрты калектываў з Польшчы, Беларусі і Літвы (м.інш. «Гаманіна» з Мінска, «Хацiславяне» з Хацiслава, «Гістрыён» з Мінска).

У кірмашы кнігі прымуць удзел м.інш. наступныя выдавецтвы: «Братчык» і «Ортдрук», выдавецтвы з Беларусі, выдавецтвы беларускай меншасці ў Польшчы, выдавецтвы «**Sąsiedzi**» з Беластока, «**Pogranicze**» з Сэйнаў і «**Stopka**» з Ломжы.

Мерапрыемства адбываецца ў рамках:
**Падляшска-Палескіх сустрэч у традыцыі «Там по маёвуй росі».**

**Арганізатар:**
**Музей малой бацькаўшчыны ў Студзіводах** у супрацоўніцтве з Пакроўскім прыходам з Бельска-Падляшскага, Брацтвам свсв. Кірылы і Мяфодзія, Музеем у Бельску-Падляшскім, Бельскім домам культуры, Кафедрай беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку і іншымі арганізацыямі ды ўстановамі.

# Прыгожыя таблiцы аб'яў

Зараз у Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) таблiцы аб'яў знаходзяцца ў кожнай вёсцы. У больших вёсках ёсць іх дзве. У Новым Ляўкове стаіць іх тры. Адна ў прысёлку-каленіі гэтай вёскі (на здымку). Паставілі як 21 красавіка гэтага года. Солтыс паклапаціўся. У той самы дзень новыя таблiцы паставілі ў Нараўцы побач шматсямейнага жыллёвага пасёлка і ў невялікім пасёлку Хаміное каля Семяноўкі.

**Тэкст і фота Янкі Целушэцкага**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесены згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. верхняе пакрыццё пасудзіны, скрынкі, каробкі = 27 _ 29 _ 21 _ 28 _;
2. адзінка сілы = 7 _ 17 _ 22 _ 13 _;
3. левы прыток Амура = 12 _ 23 _ 18 _;
4. нячыстая сіла ў... кавалёвай жонкі = 14 _ 11 _ 25 _ 26 _;
5. засуха = 24 _ 8 _ 9 _;
6. паказальны прыклад = 10 _ 19 _ 2 _ 3 _;
7. невялікая, вельмі рухавая рыба = 5 _ 6 _ 4 _;
8. горад у Забайкаллі = 1 _ 20 _ 16 _ 15 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| | | | | 7 | 8 | 9 | 10 |
| | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | | | | 18 | 19 | 20 | 21 |
| 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 16 нумара**

Фартух, борць, герц, смех, васал, Руан, кастыль, бал, жонка, дзень, Гаіці, пятніца.

Рашэнне: **Хваліцца, не касіць — рука не забаліць**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 10.05 — 16.05

**(22.03. — 20.04.)** Адчуеш сябе ў сваёй стыхіі. Адкрыюцца новыя магчымасці, будуць людзі ахвотныя да дапамогі. Але 13-17.05. хтось схоча табе нашкодзіць. У пачуццях будзь больш аператыўным. У палове мая блізкія могуць цябе здзівіць, неабавязкова міла. Будзь вельмі асцярожны ў маі, каб не зашкодзіць здароўю з-за лішняй эмацыйнасці. 12.05. пачатак больш энергічнага і рашучага дзеяння на працы.

**(21.04. — 21.05.)** З 12.05. не нагавары лішняга. Калі ты ў свежай пары, не абяцай зашмат. Думай перш за ўсё аб сабе. Акажа табе вялікую дапамогу далейшая радня. Наладзіш плённае супрацоўніцтва з чалавекам, якому можаш даверыць і які ніколі не падмане. Не пазычай! Дбай аб рэгулярны адпачынак. Бык народжаны пасля 12.05. няхай узіраецца ў тое што есць — пазбудзешся з арганізму таксінаў.

**(22.05. — 22.06.)** 9-11.05. дасканала дагаворышся з каханай асобай. Асабліва пасля 12.05. будзеш мець мноства энергіі і запалу да дзеяння. З 12.05. пазмагайся за сваё павышэнне. Пойдзе дасканала праца, выканаеш усе свае абавязкі. Дома паслухай парад Казярога. Дбай у маі аб свае косці і стрававальны шлях.

**(23.06. — 23.07.)** Лепшы настрой, добра ў пачуццях і фінансах. Але вельмі пільнуйся выдаючы грошы, бо наробіш даўгоў і іншых турбот. Не адкладвай візіту ў лекара. А 13-17.05. хтосьці схоча вымусіць на табе штосьці, на што ты не маеш ніякай ахвоты!

**(24.07. — 23.08.)** Будзе іскрыцца паміж табою і блізкімі! Не распальвай сварак! Дбай асабліва аб свае вочы. Варушыся. Будзеш мець нагоды для добрага дадатковага заробку, грош неўзабаве прыдасца. Дакладуць табе і абавязкаў на працы, прыкладзіся да іх, будзеш ад гэтага мець выгаду.

**(24.08. — 23.09.)** Маеш шанц дагаварыцца ў нейкай старой справе, не адкладвай гэтага. Дома пакуль шмат незавершанага і не да канца зразумелага. Цяпер добра было б табе сесці на дыету, ачысціць арганізм. На працы можаш хутка дасягнуць планаваных мэт, будзеш спраўным арганізатарам і правадыром. Але 9-11.05. будзь асцярожным за рулём і пры важных справах.

**(24.09. — 23.10.)** Размаўляй з партнёрам, плануйце разам. Будзеш слухаць іншых, таму можаш захапіцца нейкай модай ці ўплывам. Асаблівы ўплыў на цябе будзе мець хтосьці новы, харызматычны, пільнуйся — можа гэта быць манюка. Дома неспадзяваны наезд можа давесці да спрэчкі. На працы не натужвайся. Ад другой дэкады асцерагайся дарагіх пакупак і пазык! З 14 (да 18.05.) жыццярадаснасць і энтузіязм да новых мерапрыемстваў, у каханні адкрыюцца новыя шанцы.

**(24.10. — 22.11.)** Навучыся прымаць кампліменты і адкрыйся на людзей. Маеш шанц знайсці каханне! Не адпалохвай уважлівай і чулай асобы! Ва ўсіх справах памогуць табе сябры; не адмаўляйся ад сустрэч і падарожжаў. Добрая фізічная і псіхічная форма, але не стаў усім і сабе завысокай перакладзіны! Плануй змену прычоскі, дбай аб сваю красу (асабліва зубы!). Сярод старэйшых сяброў маеш ментара, які падкажа табе, як, лішне не нарабіўшыся, добра зарабіць!

**(23.11. — 22.12.)** У пачуццях вазьмі справы ў свае рукі — слухай клічу блізкасці! Маеш шанц на небанальную ды трывалую сувязь. Мяркуй высілак, не ператанужвайся (магчымыя праблемы з суставамі, пазваночнікам, страўнікам). На працы нічога не рабі абы-як. Маеш шанц на новы занятак (падкажа знаёмы).

**(23.12. — 20.01.)** Не шукай усюды дзіры ў цэлым, не турбуйся лішне. Твой партнёр таксама не задумвае нічога супраць цябе! 12 мая пастаў на шчырасць і праўду, хай нават і балючую. Дома ачысціш атмасферу і атрымаеш падтрымку ад радні. Цяжка цябе будзе пакласці ў ложак, але за гэтай адчайнасцю — стрэс, а гэта знішчыць можа табе здароўе. Ідзі да лекара! І паашчаджай — неўзабаве схочаш купіць штосьці большае.

**(21.01. — 19.02.)** Можаш сустрэць сваю братнюю душу нават у чарзе. Калі хтосьці трапіць табе ў вока, не чакай — дзейнічай! Дома можаш крыху адасобіцца — патрэбны табе одум, адпачынак. Спатрэбіцца табе гэта для тваёй памяці і засяроджання. Абавязкова ігарай у латарэю (аж да канца месяца!).

**(20.02. — 21.03.)** У пачуццях будзь рэалістычным! У пары будзе рэдкая гармонія, прытым нянудная! На сур'ёзную дэкларацыю найлепшы час 14-18 мая. Задбай аб сваіх бацькоў. Слухай парад лекара, больш адпачывай (не сядзі перад тэлевізарам!). Будзеш мець сто задум на хвіліну, горш будзе з рэалізацыяй, таму не рвіся першым, прытрымай таксама грошы ў кашальку. Разглянься за дадатковымі курсамі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł, roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1300 egz.

# Загубленая вера

**Маладая беластоцкая бухгалтарка Эва Валінская раскрыла ў сабе зацікаўленне лёсам жыдоўскага насельніцтва, асабліва мясцін яе дзядоў і прадзедаў.**

**— Гэтая частка нашай гісторыі ніколі не існавала, прынамсі для мяне, — прызнае жанчына.**

**Выхаваная ў антысемітызме, вырашыла, што гэта будзе самы лепшы спосаб, каб яго пазбыцца. Пачала сачыць за адпаведнай літаратурай і інтэрнэтнымі сайтамі.**

— Інфармацыя, што там змешчана, часта з'яўляецца толькі ключом, штуршком для далейшых пошукаў, — сцвярджае.

Асабліва кранула яе гісторыя жыдоў з блізкага ёй Заблудава, выратаваных з ваеннай завірухі сям'ёй Данілюкоў з-пад беластоцкіх Сольнічак. Жывога сведку тых падзей знаходзіць наш супольны знаёмы, генеалог-аматар Марк Карнілюк. На сустрэчу падаемся ўтраіх.

— Цікава, ці зможа яна свабодна раскрыцца перад такой колькасцю незнаёмых, — непакоіцца Эва.

Аказваецца, зусім непатрэбна. Раіса Бароўская ветліва запрашае сесці на канапе ў сваёй беластоцкай кватэры. Нават просіць не здымаць ботаў. Выдатнае сонечнае асвятленне гасціннага пакоя спрыяе немалой гадоўлі хатніх кветак. Займаюць яны цэлы падаконнік і асобны, стоячы побач тэлевізара, стол. На стэлажы здымкі, мабыць самых блізкіх ёй людзей.

Гісторыю яе жыцця слухаем за араматнай, пададзенай у сапраўдных шклянках, чорнай кавай і пірожным.

Нарадзілася ў 1929 на калёніі Сольнічкі, што ў гміне Юхнавец-Дольны Беластоцкага павета ў, як сама кажа, праваслаўнай беларускай сям'і Данілюкоў. Да вайны бацька працаваў у беластоцкіх фабрыках, а з 1939 года гаспадарыў на 4 гектарах зямлі. Жылі там яшчэ чатыры сям'і. Усе, незалежна ад веравызнання, гаварылі выключна па-простаму. Спадарыня Раіса — калісь галоўная беластоцкая геадэзістка, даўно адвыкла ад вёскі, а значыць — і ад роднай мовы, таму нашу размову вядзем на зручнейшай ёй польскай мове.

Чытаю ўголас змест памятнага дыплома і медаля ізраільскага інстытута Яд ва-Шэм: „Уладзіміру, Анне, Любе Данілюкам і Раісе Бароўскай. Хто ратуе адно жыццё, быццам цэлы свет ратаваў”.

— Уладзімір — гэта мой бацька, Анна — маці, Люба — сястра, — ганарыцца спадарыня Раіса.

Уладзімірам звалі таксама яе брата, які памёр будучы 6-гадовым хлопчыкам у жахлівым для яе сям'і 1945 годзе.

— Звычайная сям'я, якая пражыла ўваход саветаў і нямецкую акупацыю, — кажа яна.

Па Сольнічках круцілася тады шмат савецкіх ваеннапалонных. Яны працавалі на аэрадроме ў Крыўлянах. Іх лагер знаходзіўся ў месцы цяперашняй вайсковай часці па вуліцы Кавалерыйскай. Немцы марылі іх голадам. Хто змог, уцякаў. Неаднойчы схуднелыя, замораныя заходзілі да пражываючых пры галоўным гасцінцы Данілюкоў. Там здымалі пазначаную вялікімі нумарамі алейнай фарбай вопратку і пераапраналіся ў бацькоўскае адзенне, больш бяспечнае. У 1944 годзе заглянуў там таксама адзін з савецкіх вызваліцелей Беластока.

Бацька памагаў усім. Калі мама варыла абед, прасіў:




Раіса Бароўская з дыпломам „Справядлівай сярод народаў свету”



Сольніцкія крыжы

— Звары больш, можа хто галодны прыйдзе.

Быў студзень 1943 года, Каляды. Цёмным вечарам нехта пагрукаў у дзверы. Бацька ўбачыў двух маладых жыдоў. Паўтэр Лапата і Іцхак Кухлінскі ішлі з Заблудава. За аплатай знаходзілі прытулак у хатах падбеластоцкіх сялян. Хацелі пагрэцца, з'есці. Пад'еўшы, папрасілі перачакаваць. Бацька баяўся, ведаў чым гэта пагражала, але згадзіўся пратрымаць іх да раніцы. Раніцай папрасілі застацца надаўжэй. Некалькі дзён праседзелі на гарышчы. Драўляная столь скрыпела пад іх цяжарам, таму перасяліліся ў гумно. Лапата надумаўся схадзіць у беластоцкае гета, але вытрымаў там толькі тыдзень. Голад, па тры сям'і ў адным пакойчыку. Няма дзе спаць, няма дзе прысесці. Зноў вярнуўся да бацькі. Той загадаў ім так скрыцца, каб іх ніхто не ўбачыў. Два дні пасля ліквідацыі беластоцкага гета ў Данілюкоў паявілася двух чарговых жыдоў. Дзверы адкрыла ім маці, бо бацька якраз працаваў у полі. Брансон і Флікер сябравалі з Паўтэрам Лапатам і хацелі разам з ім тут схавацца.

— Дзе я вас падзену, чым выкармлю, — запытаў заклапочаны бацька. Тады дазвалялася малоць абмежаваныя да колькасці членаў сям'і порцыі зерня на муку.

Мужчыны выкапалі яму ў гумне і абклалі яе дошкамі, падрыхтаванымі для пабудовы новай хаты. Там сядзелі днём, а позна ўвечары заходзілі ў хату памыцца і пад'есці. Нямецкія жаўнеры часта ганяліся роварамі па вёсцы, крычалі даваць ім яйкі і малако. Маці выстаўляла каробку з харчамі, каб як найхутчэй пазбыцца небяспекі. Так дажылі вызвалення. Усе вельмі цешыліся. 17-гадовая сястра Люба сказала тады: „Цяпер то мы будзем жыць вечна”.

У Беластоку хутка пачало арганізавацца жыдоўскае жыццё. Аказалася, што нямала жыдоў выратавалася, дзякуючы дапамозе навакольнага хрысціянскага насельніцтва. Жыдоўскі камітэт меў сваю сядзібу па вуліцы Мінскай, непадалёк Цэнтральнага парку. Неўзабаве, падзякаваўшы за гасціну, адправіліся туды падапечныя сям'і Данілюкоў. Лапата пазычыў ад Уладзіміра адну з трох кароў, каб яе прадаць і мець з чым пачаць уласную гандлёвую дзейнасць. Кухлінскі вярнуўся ў Заблудаў. Патрабаваў вярнуць яму родную хату і млын. Вясной 1945 года кантакт з ім абарваўся. Спадарыня Раіса думае, што забіла яго адна са шматлікіх, лютуючых па наваколлі, бандаў. Брансон — трэці з чацвёркі падапечных Уладзіміра, адкрыў мясную краму супольна з калегам, які канца вайны дачакаў ва ўласнай хаце на Млыновай, перададзенай у рукі былой служанкі іх сям'і. Чацвёрты — Флікер — раскруціў бізнес з Лапатам. Пасяліліся на вуліцы Піўнай, у хаце сваяка Лапаты. У час вайны жыла там расіянка, якая рашыла вярнуцца на радзіму, асвабаджаючы гэтым самым жыдоўскае памяшканне. Краму адкрылі на вуліцы Мазавецкай. Сяброўскія кантакты паміж Данілюкамі і былымі падапечнымі квітнелі. Сустракаліся на вёсцы і ў беластоцкіх кватэрах.

У 1945 годзе праваслаўны Вялікдзень выпаў вельмі позна, бо ажно 6 траўня. На другі дзень свята ў хату Данілюкоў, як заўсёды, прыехала шмат гасцей. Лапата і Флікер прывезлі з сабой савецкага салдата, з якім супольна кватаравалі. Яго ваенная часць знаходзілася па вуліцы Аградовай. Была дваюрадная сястра з мужам і 4-гадовым сынам. Сядзелі за святочным сталом, успаміналі акупацыю. Потым далучыўся яшчэ дваюрадны брат з калегам. Калега — вясковы хлопец, які ніколі раней туды не заходзіў, звярнуў увагу сабраных. Раптам нехта пастукаў у акно.

— Хто там? — запытаў бацька.

— Паліцыя з Беластока, згубіліся, укажыце нам дарогу.

— Так я ўжо пайду, завяду іх, — скрануўся з месца не бачаны тут раней калега.

Бацьку застрэлілі ў дзвярах. Потым забілі сястру Любу, Флікера, прайшоўшага цэлы фронт савецкага салдата, які, пабачыўшы польскія мундзіры, падумаў, што прыйшлі саюзнікі. Той паспеў толькі сказаць: „Рускі салдат не здаецца”. Паранілі схаванага пад ложкам Лапату, падстрэлілі Раісу і маму. Дзеткі — брат Раісы — Уладзімір і сын дваюраднай сястры ўжо спалі. Трупаў і спячых дзяцей аблілі бензінам і падпалілі са словамі:

— Niech się wypali krew kacapska i żydowska.

Спадарыня Раіса не можа стрымаць слёз.

Стоячы ў акне ахопленай агнём хаты, Раіса малілася пра хуткую смерць. Раптам пачула голас маці, якая адной рукой узяла з кухні вядро вады і паліла па хаце. Адной рукой вынесла ў сені дзіця, пайшла па другое. Клікала Раісу, каб дапамагла вынесці забітых. Тая ад болю не магла зрабіць кроку. У сенцах ляжала яшчэ жывая сястра Люба. Паспела толькі сказаць: „Мамачка, мілая, я ўжо ўміраю”. Яе цела Раіса разам з Лапатам здолелі вынесці з сенцаў на воз. Была адзінай, якой не стравіў агонь. Неўзабаве як пазбег смерці муж дваюраднай сястры. Цела збітай жонкі і сына вынес ён у хату суседзяў. Згарэлі хата, гумно і хлеў з усёй жывёлай. Раіса засталася з апёкам рук, вушэй, твару і плячэй.

Разам з мамай пайшлі на начлег да суседзяў Сліжэўскіх. На другі дзень фурманкай завёз іх у шпіталь па вуліцы Варшаўскай знаёмы Андрэй з Войшак. Раісу трымалі месяц, а маці выпусцілі пасля чатырох месяцаў лячэння. Страх перад польскім мундзірам застаўся з Раісай назаўсёды.

Пайшлі жыць да сястры бацькі, у адзін пакойчык на паддашку. Каб вывучыць дачку, маці мыла чужым людзям бялізну і прыбірала хаты. Раіса падзарабляла рэпетытарствам, дапамагаючы ў вучобе перасяліўшымся з вёсак непісьменным дзецям.

Такі лёс сям'і Данілюкоў падрыхтавалі члены Народовых сіл збройных Антоні Рутkоўскі, псеўданім „Арол” — жыхар суседняй вёскі Скрыбічы, і яго намеснік Эдуард Карольчук з Дайлідаў.

— Такія людзі атрымалі кампенсацыі за тое, што пасадзілі іх у турму, — з горычу гаворыць спадарыня Раіса. — Іх засудзілі на 10, 15 гадоў, але ў выніку амністый сядзелі толькі па 2, 3 гады. Я ж тады жыла і ўсё гэта дакладна ведаю.

У ізраільскіх медыях аб справе сольніцкага морду ажно гучала. Тут не загаварыў ніхто. Жыхары Сольнічак добра ведалі ўсю гісторыю, але выявіць яе так і не адважыліся. Жахлівыя здарэнні па сёння прарываюць сон жанчыне. Столькі гадоў чакала, каб ад іх вызваліцца, губляючы па дарозе веру ў чалавечую дабрыню і справядлівасць.

— Скажу цяпер шчырую праўду. Кожны думае толькі пра сябе. Не варта рызыкаваць сваім жыццём, каб ратаваць іншых. Потым усё гэта забываецца, а табе і так ніхто не дапаможа, — сумна канстатуе спадарыня Раіса.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

ISSN 0546-1960